

Як хадзілі па Гайнаўцы → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



Кумпякі Яна Анцыпы → 5

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 39 (3150) Год LXI Беласток, 25 верасня 2016 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



# У Гарадку дажалі і заспявалі

**Пасля падзячных багаслужбаў у гарадоцкіх каталіцкім і праваслаўным храмах у вераснёвае поўнае лета хто жывы дабіраўся над вадасховішча ў Зарэчанах. Тут, 10 верасня, над дыхаючым халадком штучным азярцом, перад гожа аздобленай сцэнай і багатымі пладамі Гарадоцкай зямлі заселі гледачы фэсту. Быў гэта і бульба-фэст, і збожжа-фэст, плённа-беларускі.**

Даніна была аддадзена і «пану» — на сцэне шматслоўна выступілі палітыкі і чыноўнікі, што было прынята цярпліва і са зразуменнем. «Вароны крычаць, хіба на дождж» — каментавалі дасціпныя тры дзядкі ў другім радзе амфітэатра. Адзін з дзядуляў, былы гаспадар, жыхар Радуніна Пятро Мартонік адзначыў, як і многія нашы старыя беларусы, што жывецца цяпер так, што лепш не трэба, адно здароўе не тое, «паверыце ці не». Цешыліся дзядзькі як і ўсе сабраныя нагодай паслухаць песень і людзей пабачыць. І праўда, важна таксама сесці ў добрым месцы. Я здабыла багаты плён анлайн — апынулася на траекторыі палёту бульбін, якія ўжываліся ў двух конкурсах і, нятрапіўшыя ў вядзерца ці ў бутэльку, прызямляліся акурат на мне. Бамбардзіраванне здаровымі, прыгожымі клубнямі ўспрыняла я як шчодры падарунак ад лёсу, які сёлета здорава паганяў мяне па плённых беларускіх спеўна-пасвенчаных івентах. І адчувала сябе як той змораны спёкай земляроб, усё ж уцешаны здабыткамі нашай зямлі. І з шырокай усмешкай, як і «Але Бабкі» з Залук і Валіл-Двара, частуючыя смачнымі вырабамі разявак, падала і я ў свойскія абдымкі знаёмых і незнаёмых, з якіх некаторыя віталі мяне «пані Ніва»...

Радавалася і сэрца, і вочы — якія прыгожыя вянкі, традыцыйныя і з нейкім святочным фокусам, прынеслі жанчыны ад кожнага салэцтва, а з самога Гарадка аж два. Як цяжка было ацаніць, каторы з іх быў самы прыгожы, а і нельга было забыць пра перапёлку ад Валіл-Двара, дзе «для зайчыка» пад ўквечаным калоссем, апрача гожага хлябца, ляжалі іншыя смачныя вырабы, і нават жменя крамяных лісічак. А вакол пірага, уручанага старостамі дажынак Ілонай Лукошык і Андрэем Нестарчуком пану войту, віўся хмель і залацілася марунка. Падзякавалі і арганізатарам (ГЦК і Гарадоцкая гміна), і дабрадзеям, падмацаваўшых удалую імпрэзу — Газ-Сістэме, сетцы крам «Аргелян», пякарні «Мая» з Міхалова. З гэтага зерня і з мукі з яго будзе хлеб! — адзначала хораша вядучая па-беларуску імпрэзу Аня Трахімчык, нядаўна яшчэ вучаніца гарадоцкай школы і ўдзельніца ўсіх беларускіх конкурсаў і мерапрыемстваў, спявачка гурта «Вэна».

— Браты і сёстры, перш за ўсё паважаны спадар войт, — звярнуўся пасля малебна над плёнамі як заўсёды на роднай мове а. Мікалай Астапчук. — Таксама арганізатары, сабраныя і дарагія госці, якія апынуліся тут на нашай святой Гарадоцкай зямлі. Гэта зямля асобая, якая перанесла шмат цікавага ў сваёй гісторыі, і гэта зямля, якая пладаносіць, прыносіць плёны, не толькі ў тым, што расце на гэтай зямлі, але і ў тым, што на ёй прабывае... Кожнае свята ў літургічным календары мае сваю мэту і прызначэнне, свой парадак. Сёння вялікая радасць Небу, калі людзі ўмеюць дзякаваць Госпаду Богу, за дары і ласку, якія Ён дае чалавецтву. Праца на зямлі цяжкая. Яна часта мучыць чалавека, і часта чалавек хацеў бы адысці да чагосьці іншага. Дай Бог, каб мы перанеслі ўсё з надзеяй. У Бога ёсць свой план і парадак, і клопат вялікі аб чалавеку. Трэба пакарыцца і прасіць у Госпада Бога дапамогі і благаславенства. З Богам пераможам усякую нядолю і бяду. Няхай Гасподзь блаславіць плёны гэтай зямлі. Дзякуй Богу за дождж, за сонца, за ўсё, што нам падаваў, каб мы маглі цешыцца дарамі і плёнамі, якія маем перад нашымі вачыма.







— Словы павагі належацца нашым землеробам, — сказаў войт Веслаў Кулеша. — За труд працы, дзякуючы якой на нашых сталах штодзень віднее свежы, араматны хлеб. Таму горача вітаю сялян з нашай і суседніх гмін. Хвіліну таму атрымаў я з рук старосты вялікі бохан хлеба спечаны з сёлетняга зерня. Трымаючы яго ў далонях адчуваю радасць і ўдзячнасць. Ад нашай грамады хачу сказаць сялянам «Дзякую!». Дажынкі, старадаўні абычай, з'яўляецца святам удзячнасці, завяршэннем гадавой працы з вялікім значэннем. Яна складае падставу экзістэнцыі грамадства. Праца земляроба — нялёгкая і асаблівая, незалежна ад аграмаднага развою тэхнікі сучасны чалавек надалей залежны ад розных з'яў прыроды. Свята плёнаў прыпамінае, што дзякуючы працы сялян на нашы сталы трапляе наш надзённы хлеб. Мы ўсё бліжэй сучасных вырашэнняў, хапае нам турбот і цяжкасцей, але супольнымі сіламі ўдалося нам зрабіць шмат, дзякуючы таксама магчымасці выкарыстання вонкавых сродкаў. Удалося нам зрэалізаваць шмат інвестыцый, у тым ліку дарожных, якія служаць усім жыхарам Гарадоцкай зямлі. Памагаем таксама землеробам запаўняць еўрасаюзныя заявы. Усім сялянам і іх сем'ям жадаю, каб натура заўжды ўзнагароджвала ваш труд плёнам, няхай хлеб з сёлетняй мукі будзе разважліва і справядліва падзелены.

Мастацкую частку пачаў калектыў «Каліна» з Залук, які ўзнік у 2000 годзе па ініцыятыве энергічных і таленавітых жыхарак гэтай бойкай вёскі, напачатку адспяваўшы «Z tamtej strony jeziora».

— Дажыначкі, дажыначкі, звініць, пяе вышынь, як песня над краінаю сялянскае душы. Дажыначкі, дажыначкі, паўнюсенькі снапок. Сваіх гасцёчкаў міленькіх вітае Гарадок! — Галена Ляховіч з «Расспяванага Гарадка» вітала гасцей. — Едуць з вёскі ў горад, сабе шчасця шукаці... А нам родная вёска ніby добрая маці. Я вярнуся дадому, дзе расла і вучылася, кожны кут мне знаёмы, бо я тут нарадзілася. Я вярнуся з далечы да сваёга парога, дзе запалена ў печы і памята падлога... Падыду я да хаты, маці з бацькам страчаюць, дзе мяне не пакрыўдзяць і заўсёды чакаюць...

Свята, поўнае спеваў і смакоцця цягнулася далёка ў ноч, гарачую і парную, як у лета. Добрае лета маем гэтай восенню!

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**





# Выбарчыя анекдоты

На гарадзенскім прыпынку гарадскога транспарту размаўляюць дзве старэнькія кабеты:

— Па тэлевізары казалі, што на гэтыя выходныя зноў выбары будуць, — цяжка ўздыхнуўшы кажа адна. — Трэба ісці.

— А за каго цяпер трэба галасаваць? — са шчырай цікавасцю пытае другая.

— Цяпер, мабыць, за Пуціна, — адказвае суразмоўніца.

Стала крыху смешна. І не таму, што праўладны беларускі электарат, якога фармуе тэлевізар, зусім заблытаўся ў беларускіх і расійскіх прапагандысцкіх тэлепраграмах і, згубіўшы апошнюю сувязь з рэальнасцю, ужо перастаў адрозніваць дзе і якія праходзяць выбары. І не таму смешна, што яны шчыра вераць, што ім трэба абавязкова ісці і некага падтрымліваць, бо нехта там зверху патрабуе ад іх гэтага. А смешна таму, што яны насамрэч думаюць, што ад іх голасу нешта залежыць. І што каманду куды ісці, і за каго галасаваць яны, на іх думку, як шпіёны ў савецкіх фільмах, атрымліваюць асабіста па іх уласным тэлевізары.

А па тэлевізары, дзе ідуць пераважна расійскія каналы, бо гэта сучасная Беларусь, зноў заклікалі ісці на выбары ў наступныя выходныя пасля беларускіх выбараў. Ну і што, што выбары ў Расіі! Але ж тэлевізар то ў Беларусі! Ну як тут зазамбаванаму прафесійнаму галасавальшчыку разабрацца што першаснае, а што другаснае. Галоўнае — выканаць загад.

Не ведаю як там расійскія выбарцы, што яны там мяркуюць пра свае выбары, пайшлі на іх ці не, а вось частка беларускіх, як аказваецца, як тыя савецкія піянеры, заўсёды гатовыя. І нават ведаюць за каго трэба галасаваць. Аказваецца, за Пуціна. А тое, што Пуціна няма ў спісах, дык гэта нічога страшнага. У кожных выбарах ёсць свае недахопы. Галоўнае — гатоўнасць.

Вось так і нараджаюцца анекдоты, з жыцця. Таму іх даўно варта прызнаць найяскравейшай праявай народнай творчасці ў таталітарных краінах.

Зрэшты, з падобным анекдотам я ўжо сутыкнуўся за тыдзень да гэтага, калі выбары былі там жа, дзе і тэлевізар, у Беларусі. З выязнога галасавання па месцы знаходжання выбаршчыка прыехаў адзін назіральнік і расказаў не менш цікавую гісторыю. Старэнькая жанчына стала пытацца, дзе ў бюлетэні прозвішча Лукашэнка. Бо яна выклікала сяброў камісіі дахаты толькі таму, што мусіць прагаласаваць за Лукашэнку. І калі яна гэтага не зробіць, то яна не ведае, што будзе, але дакладна нічога добрага.

Ёй пачалі тлумачыць, што Лукашэнка не ўдзельнічае ў парламенцкіх выбарах. І таму яго прозвішча няма ў бюлетэнях для галасавання.

Вочы жанчыны напоўніліся жахам.

— А куды ж вы Лукашэнку дзелі!? — стала ні то дапытвацца, ні то выстаўляць прэтэнзіі яна. — Чаму гэта ён не балатуецца? Што ж цяпер будзе? За каго ж цяпер галасаваць!?

І сапраўды, за каго галасаваць чалавеку, калі наконт такой няштатнай сітуацыі ён не атрымаў аніякіх дадатковых інструкцый? Якая недапрацоўка праўладных тэлевізійшчыкаў! За што ім грошы плацяць?

Ну, але нават гэтыя выпадкі, пры ўсёй іх глыбокай жыццёвай сатыры і яскравым канцэртным гумары ўсё адно не могуць канкураваць у намінацыі „лепшы выбарчы анекдот" з тым, што ажно два апазіцыянеры выйгралі выбары.

Вось гэта анекдот дык анекдот!

Яно то і раней было, калі апазіцыянеры сцвярджалі, што Захад дамовіўся з беларускай уладай прапусціць у парламент некалькі чалавек з апазіцыі, бо каб адносіны паміж Захадам і Беларуссю палепшыць, трэба зрабіць ну хоць што-небудзь. Чым гэта канчалася тады, усе ведаюць. І гэта нагадвае нейкі адзін стары савецкі анекдот, калі Сталіну прывялі паказаць яго двайніка.

— Вельмі падобны на мяне, — незадаволена кажа Сталін, агледзеўшы двайніка. — А двух Сталінаў быць не павінна.

— Нічога страшнага, — супакойвае яго Берыя. — Мы гэтага двайніка зараз расстраляем і ўсё тут. Аніякіх праблем.

— Але ж гэта стары камуніст, — умешваецца Маленкоў. — Навошта расстрэльваць? Давайце паголім яму вусы і ён перастане быць падобным на таварыша Сталіна.

— Ну добра, — падсумоўвае Сталін. — Пагаліце яму вусы, або расстраляйце. Але рабіце што-небудзь.

А вось што будуць рабіць два апазіцыянеры ў гэтым парламенце, гэта ўжо тэма для будучых анекдотаў.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Толькі добрыя словы



Б'юць палякаў у Вялікабрытаніі, таму што тыя асмельваюцца выкарыстоўваць польскую мову. У варшаўскім трамваі паляк збіў паляка. За тое, што той гаварыў са сваім калегам з Нямеччыны на нямецкай мове. Ці магчыма, каб у Беластоку дайшло б таксама да збіцця кагосьці за тое, што ў аўтобусе гарадскога транспарту загаварыў на беларускай мове? Або на гайнаўскім рыначку ў цэнтры горада? І калі не на беларускай мове, дык украінскай, літоўскай ці «па-свойму»? А чаму б і не ?!. Агрэсіўныя ксенафобія, расізм, нацыяналізм, шавінізм ужо здаўна тлеюць у беластоцкай гаворцы. А наогул у польскай мове. У яе хамскім варыянце, які завецца «мовай вуліцы» поўнай «к..ваў і да гэтага падобнага», пануе радыкалізм, аўтарытарызм «альбо-альбо», пошласць, грубасць і невуцтва. Там няма месца на замежныя мовы, ці нават «следзікаванне» — гэтую чароўную шматгалоснасць меж Беласточчыны, на гэты моўны хрыбетнік эгалітарнага мультыкультуралізму.

Кажуць, што расізм або нацыяналізм з'яўляецца нечым новым у польскай рэчаіснасці. Так, але толькі ў публічнай сферы. Афіцыйнай. У прастамоўі ўжо даўно тлелі іх інфекцыйныя кропкі. Шавінізм ці ксенафобія не мусяць мець атрымальніка моўнай артыкуляцыі. Адно ці другое з'яўляюцца проста мутацыяй чалавечай агрэсіі. Даючы дазвол на жорсткасць мовы, яе схамленне і ваяўнічую экспрэсію, даем дазвол на тое, каб сацыяльныя фрустрацыі намецілі па сваім капрызе любога атрымальніка. Заўсёды неадпаведнага атрымальніка. Даюць сваю згоду на гэта палітычныя і культурныя салоны, якія ў значнай ступені перанялі на сябе так званую «вулічную» мову агрэсіі, як і сама «вуліца», у большасці населена звычайнымі грамадзянамі. Баліць асабліва тое, што гэтая лінгвістычная чума ўразіла таксама лагоднае Падляшша. Гэтае мультыкультурнае, шматмоўнае, шматканфесійнае памежжа Рэчы Паспалітай.

Толькі тэрмін «памежжа» мае нейкае значэнне сёння? Здаецца, што ў моўным кантэксце ён практычна пусты. Хто яшчэ на Падляшшы «следзікуе»? Хто «тапляроць» — нават неабавязкова ў адпаведнасці з тымі граматычнымі правіламі, вынайдзенымі незабыўным аўтарам «Канапелькі» Эдвардам Рэдлінскім? Здаецца, ніхто. Польскую мову здамінавала гэтак жа выдуманая, хаця пры «таплярскай» надзвычай агрэсіўная мова рамана «Вайна польска-руская пад чырвоным сцягам» Дароты Маслоўскай. Абедзве гэтыя мовы — рэальна — падзяляе амаль усё. Па-першае, адсутнасць у адной або лішак у другой мове агрэсіі. Спалучае іх адно: на самой справе яны ніколі не існавалі. Тым не менш, абедзве мовы адначасова з'яўляюцца рэальным выразам светаў, якія ў бясконцых паўтарэннях бытаў можа і маглі б існаваць, і, верагодна, існавалі або перастаюць існаваць. Каб закрыць дужку, то прызнаюся, што па «таплярскім» свеце я крыху тужу. Калі гаворка ідзе пра тое, што апісана ў «Вайне польска-рускай...», я веру, што нават калі яно існуе, у рэшце рэшт счэзне.

Шлам нацыянал-шавінізмаў разліваецца па ўсёй Еўропе. І хто ведае, ці не на ўвесь зямны шар. Розум у адступленні. Дрэнныя эмоцыі ўсплёскваюцца з чалавечых чэрапаў, як свежы сок з расколатага какосавага арэха. У Злучаных Штатах непрыязь белага насельніцтва краіны да іспанамоўных імігрантаў — мексіканцаў, эквадорцаў і г. д. пастаянна ўзрастае. Гэта не дзіўна, так як колькасна дамінуючая да гэтага часу ў ЗША кіруючая «белая раса» ў бліжэйшы час можа апынуцца ў меншасці. У амерыканцаў ужо здаўна тая ж праблема з міграцыйным эксодусам людзей шукаючых працу і бяспечнае месца для жыцця, з якой сутыкаецца Еўропа на самой справе толькі больш за год. Супраць бежанскай навалы глабальнага маштабу палітыкі ва ўсім свеце выступаюць на ўсё больш хамскай і рэзкай мове. Войны пачынаюцца якраз у чалавечай мове. У яе самай прымітыўнай форме — адмоўных эмоцыях, у злосных словах. У Польшчы за хвалю нянавісці да таго што нямецкае адказвае папуліцкая рыторыка ПіС і падтакваючыя яму правыя СМІ. Эх, хацелася б кінуць матам! Але прыйшоў апошні час, каб знайсці ў сваёй уласнай мове словы розуму. Толькі добрыя словы.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Бельскі вальс

У канцы верасня палымянымі колерамі пачынаюць разгарацца акружаючыя нас дрэвы і найменшыя кусты. Крыху халоднага ветру і лістоўе раптоўна закружыць у самазнішчальным танцы. Але пакуль апошні скручаны лісток складзе сваю ахвяру маці-зямлі, то будзе радаваць нас непаўторнасцю фарбаў восеньскага пейзажу. А мы, як зачараваныя, будзем углядацца ў тое прыгожае і старацца захаваць ад забыцця светласць і цеплыню адыходзячых лета і вясны. Таксама будзем намагацца захаваць ад забыцця нашу маладосць, нашы юнацкія гады — час летуценных мараў, якія нас, несеных ветрам часу, гісторыі і прасторы, раскінулі і закінулі ў чаканыя або непажаданыя месцы. У месцы, якія нас звязі з людзьмі, з якімі хочам быць або як найдалей ад некаторых уцячы. Толькі куды і да каго тады вяртацца? З кім і дзе можна ізноў пачаць верыць і марыць? Асабліва, калі больш пераджытага за намі, чымсьці жыцця наперадзе... Але, як адвечна жаданым веснавою парою з'яўляецца жураўліны кліч і першы бусліны клёкат у роднай прасторы, то з гадамі самымі моцнымі ўзгадванымі і чаканымі з'яўляюцца сустрэчы з людзьмі і сябрамі маладосці, часта так доўга нябачанымі....

Напрыканцы гэтага тыдня будзе праходзіць ужо восьмы з'езд выпускнікоў Бельскага беларускага ліцэя. З гэтай нагоды ад мяне асабіста і ўсёй рэдакцыі прыміце, шаноўныя выпускнікі, словы пашаны за непрымушаную нікім ахвоту да чарговай сяброўскай сустрэчы. А асобам, якія ўсклалі на сябе абавязкі арганізацыйнага камітэта, апрача гарачай падзякі ад удзельнікаў мерапрыемства, не будзе хіба перабольшаннем, калі за іх працу і здароўе ахвяруеце таксама запаленыя свечкі ў царкве. Ведаўшы рэаліі сённяшняга свету і адкладанне рашэнняў пра ўдзел у з'ездзе на апошні момант, то стрэсавых выклікаў хапала ім пад завязку. Але думаю, што будзе варта пераадолець усе выклікі і разам завіраваць у бельскім вальсы. І ўзляцець высока-высока па-над дахамі горада і прыгадаць ды ўгледзець тыя ўсе дарогі і напрамкі, што прывялі вас у далейшым ці бліжэйшым мінулым у муры сваёй школы. На роварах, цягніках, аўтобусах, пражываючых на кватэрах сваіх бельскіх знаёмых ці вучнёўскіх станцыях, выпраўлялі вас бацькі з бліжэйшага ці далейшага наваколля за лягчэйшым хлебам. Не хацелі яны, каб іх дзеці былі ўвесь час толькі панамі сахі і касы. Надаела і абрыдла быць зведзеным да загонна-прыгоннага абраду. Многім пачатак школьнага года быў такім выбаўленнем ад цяжкасцей вясковага жыцця. А старажытны Бельск быў ужо тым прыстанішчам, дзе гарадское можна было не толькі пабачыць, але і рэальна паспрабаваць, укусіць. Але ці ж атрыманы лягчэйшы хлеб нёс таксама і адказнасць за сваё нацыянальнае, беларускае? Па-рознаму гэта бывала і бывае далей у нашым жыцці. Некаторыя так адляцелі ў яшчэ далейшы свет са сваіх вясковых мясцін, што адкінулі поўнасцю свой сялянскі радавод. Потым ужо з месцячковай падляшскай перспектывы наступныя пакаленні пачалі пакутаваць ад нейкіх правінцыйных комплексаў. Напрыклад, ад самаадмаўлення ад сваіх родных дыялектаў у сямейным жыцці, асабліва ў выхоўванні першага пакалення гарадскіх унукаў і ўнучак. Самапаланізаваліся. Але неяк добра і ўтульна жылося з тым нашай меншасці, занадта не выхіляючыся са сваёй беларускасцю. Маладосць, аднак, не цярпіць занадта такой малой стабілізацыі. Разбуджаныя маладыя бельскія галасы патрабавалі па-беларуску не толькі ўжо тутэйшасці, але гістарычнага і культурнага мыслення, якое мне, тады вучню Гайнаўскага белліцэя, вельмі спадабалася і адкрывала свет на новыя выклікі і ідэі. Дзякуючы вам, хлопцам і дзяўчатам з Бельскага белліцэя, нараджалася на пачатку васьмідзясятых гадоў зусім новае — адказнае думанне пра нашы справы з беларускага пункту гледжання. Гэта быў пералом, які стаў важнай апорай у развіцці беларускага палітычна-самаўрадавага руху на Беласточчыне.

Пра такія справы заўсёды старалася пісаць і заахвочваць да пісання маладых людзей «Ніва». І паэтычны Бельскі ліцэй праз старонкі нашага тыднёвіка станавіўся апірышчам беларускага літаратурнага руху ў Польшчы. Тады ў беларускім бельскім вальсы няхай завіруюць усе пакаленні выпускнікоў!

**Яўген ВАПА**

# Фінал Кубка Польшчы

## «Nordic Walking» у Гайнаўцы

Амаль дзевяцьсот прыхільнікаў скандынаўскай хадзьбы з палкамі з 270 мясцовасцей Польшчы, грамадзянін Беларусі і грамадзянка Украіны прынялі ўдзел у фінале Кубка Польшчы «Nordic Walking», які 10 верасня быў арганізаваны Польскай федэрацыяй «Nordic Walking», Гайнаўскім старостам і Гайнаўскім надлясніцтвам у Гайнаўцы і яе наваколлі. Сцежкі, па якіх ішлі фанаты скандынаўскай хадзьбы, распасціраюцца ў прыгожай частцы Белавежскай пушчы, каля Крыначкі і вёскі Ліпіны. Хаця з Рэспублікі Беларусь, у якой няма моды хадзіць з палкамі, прыехаў на гайнаўскія спаборніцтвы толькі адзін хадок, баскетбаліст з Гродна Андрэй Дзядзевіч, стаў ён агульным пераможцам Кубка Польшчы «Nordic Walking» на самай прэстыжнай дыстанцыі — паўмарафоне, здабываючы першыя месцы ў Гайнаўцы і ва ўсіх іншых мясцовасцях, дзе праходзілі спаборніцтвы кубка Польшчы. Падчас гайнаўскага фіналу перамог таксама жыхар Гайнаўкі Аляксандр Пракапюк, які на дыстанцыі 5 кіламетраў заняў першае месца сярод мужчын ва ўзросце больш за семдзесят гадоў. Спаборніцтвы Кубка Польшчы «Nordic Walking» арганізуюцца ў Гайнаўцы і наваколлі штогод з 2012 года і з кожным годам расце колькасць іх удзельнікаў.

Мерапрыемства адкрылі гайнаўскі стараста Мірaслаў Раманюк, гайнаўскі надлясніччы Рыгор Бялецкі, старшыня Польскай федэрацыі «Nordic Walking» Ольгерд Бойкэ і Аляксандра Пясэцкая з Генеральнай дырэкцыі Дзяржаўных лясоў. Яшчэ раней на трасу выйшлі хадакі, што змагаліся ў паўмарафоне, на дыстанцыі звыш 21 кіламетра, а пасля афіцыйнага адкрыцця мерапрыемства ўсе іншыя ўдзельнікі спаборніцтваў сагрэліся ў вялікай кампаніі. На трасы 10 і 5 кіламетраў выходзілі жанчыны і мужчыны ў паасобных узроставых катэгорыях. Адбыліся таксама спаборніцтвы для дзетак ва ўзросце 2-7 гадоў і 24 малечы ўдала перайшлі з палкамі дыстанцыю 200 метраў.

— Да нас прыехалі амаль дзевяцьсот хадакоў з 270 мясцовасцей, што сведчыць аб вялікай зацікаўленасці сённяшнімі спаборніцтвамі. Мы спаборніцтвы за кубак Польшчы «Nordic Walking» арганізуем пяты раз, але сёлета ўдалося пераканаць Польскую федэрацыю «Nordic Walking», каб наладзіць у Гайнаўцы і наваколлі фінал Кубка Польшчы «Nordic Walking», што для нас з'яўляецца вялікім вылучэннем. Сёння прыехалі змагацца да нас асобы, якія могуць вяртацца сюды ў якасці турыстаў, а нашым жыхарам даем станоўчы прыклад, як можна актыўна адпачываць, ходзячы з палкамі. Бачым рэзультаты папярэдніх спаборніцтваў за кубак Польшчы «Nordic Walking», бо нашы людзі сталі хадзіць з палкамі па Белавежскай пушчы і наваколлі, — сказаў гайнаўскі стараста Мірaслаў Раманюк, які стрэлам з пісталета пускаў на спаборніцтвы жанчын і мужчын у розных узроставых катэгорыях.

— Арганізацыя фіналу Кубка Польшчы «Nordic Walking» гэта прамоцыя Гайнаўскага павета на ўсю Польшчу, прапагандаванне здаровага ладу жыцця і знаёмства з вельмі прыгожай Белавежскай пушчай. Для мяне і многіх удзельнікаў спаборніцтваў самае важнае прайсціся з палкамі па сцежках вельмі прыгожай нашай пушчы. Удзельнікі сённяшніх спаборніцтваў яшчэ будуць адпачываць у вялікай сімпатычнай кампаніі. Спаборніцтвы Кубка Польшчы, якія ладзяцца ў нас, мабілізавалі мяне да хадзьбы з палкамі і я раблю гэта некалькі гадоў, разам з сябрамі, — заявіла, прыйшоўшы на мэту, гайнаўская віцэ-староста Ядвіга Дамброўская, былая шматгадовая настаўніца ў Гайнаўскім белліцэі. Пахваліла яна Валянціну Горбач, начальніка Аддзела прамоцыі і рэгіянальнага развіцця Гайнаўскага старыства і іншых працаўнікоў гэтага аддзялення, якія займаюцца арганізацыяй спаборніцтваў за Кубак Польшчы «Nordic Walking» у Гайнаўцы і наваколлі.

— Сённяшні фінал Кубка Польшчы «Nordic Walking» быў арганізаваны Польскай федэрацыяй «Nordic Walking», Гайнаўскім павятовым старостам і Гайнаўскім надлясніцтвам пад патранатам маршалка Падляшскага ваяводства, падляшскага ваяводы і Генеральнай дырэкцыі Дзяржаўных лясоў. Нашымі партнёрамі ў арганізацыі вялікага спартыўнага мерапрыемства былі Гарадская ўправа ў Гайнаўцы, Гайнаўскі дом культуры, Водны парк, Прадпрыемства камунальных паслуг, Управа Гайнаўскай гміны, Белавежскі нацыянальны парк, Дзяржаўная пажарная ахова з Гайнаўкі і Добраахвотная пажарная дружына з Махнатага, Павятовая камендатура паліцыі ў Гайнаўцы, Гранічная ахова з Белавежы. Арганізаваць сённяшнія спаборніцтвы дапамагае многа валанцёраў з Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы. У 2011 годзе мы вызначылі трасы, па якіх хадзілі без спаборніцтва. У 2012 годзе ўдзел у арганізаваных у нас спаборніцтвах за Кубак Польшчы «Nordic Walking» прынялі каля 300 чалавек і з году ў год колькасць удзельнікаў спаборніцтваў расце, — распавядала начальнік Валянціна Горбач.

— Сённяшні фінал Кубка Польшчы «Nordic Walking» і папярэднія выпускі адбываліся на тэрыторыі горада Гайнаўкі і Гайнаўскай гміны. З палкамі сталі хадзіць не толькі гайнавяне, але таксама жыхары нашых вёсак. Я бачу жанчыну, якая ходзіць з палкамі па дарозе з Хітрай у Дубічы-Асочныя, але найбольш асоб ходзяць з палкамі з вёсак Ліпіны і Дубіны, — сказала войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч.

Каля 200 вучняў гімназій і звышгімназічных школ Гайнаўскага павета пайшлі ў фінале Кубка Польшчы «Nordic Walking».

— З нашага Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы пайшлі з палкамі 43 вучні і некаторыя настаўнікі. Самы лепшы вынік сярод вучняў здабыў Лукаш Карпюк з белліцэя, які ў катэгорыі 18-29 гадоў заняў трэцяе месца на дыстанцыі 5 кіламетраў. Я хадзіла ў мінулых гадах, а цяпер засталася тут, каб займацца арганізацыйнымі пытаннямі і дапамагаць нашым вучням, — заявіла настаўніца фізкультуры ў гайнаўскіх белліцэі і белгімназіі Бажэна Шакала-Ефімюк.

— Сцежкі, па якіх мы ішлі, бяспечныя, а Белавежская пушча вакол іх вельмі прыгожая. Мы праходзілі каля царквы ў Крыначцы і падыходзілі пад вёску Ліпіны, — гаварыў гайнаўскі лекар Тарасій Астроверх, які на дыстанцыі 5 кіламетраў заняў другое месца ў катэгорыі мужчын ва ўзросце 60-64 гады. — Бегаць дзеля захавання добрага здароўя не ўсе могуць, хаця б па прычыне хворых суставаў, а хадзіць з палкамі могуць асобы ў розным узросце.

Хаця каля 900 хадакоў з Польшчы прынялі ўдзел у гайнаўскім фінале, то яго героем стаў адзіны грамадзянін Рэспублікі Беларусь, баскетбаліст з Гродна Андрэй Дзядзевіч, які стаў агульным пераможцам Кубка Польшчы «Nordic Walking» на самай прэстыжнай дыстанцыі — паўмарафоне (звыш 21 кіламетр). Па дарозе перамог ён у Гайнаўцы, з часам 2 гадзіны і 11 хвілін 53 секунды і ва ўсіх іншых мясцовасцях, дзе сёлета праходзілі спаборніцтвы ў рамках Кубка Польшчы.

— Я навучыўся хадзіць з палкамі і стаў прымаць удзел у спаборніцтвах Кубка Польшчы «Nordic Walking», бо ў Беларусі не арганізуюцца такія спаборніцтвы і няма моды хадзіць з палкамі. Я ў Гродне займаюся баскетболам і трэніруюся, так як іншыя нашы баскетбалісты. У мяне сям'я і трое дзетак і таму няма ў мяне часу, каб пастаянна хадзіць з палкамі і трэніравацца. Па Белавежскай пушчы, якая прыгожая, ішлося мне добра, — сказаў прыйшоўшы на мэту Андрэй Дзядзевіч.

Другое месца ў паўмарафоне ў катэгорыі асоб ва ўзросце 30-39 гадоў заняў Якуб Зарэмба з Белавежы.

— Я сябрую з Андрэем Дзядзевічам і бачу, што ён ідзе на трасе як нейкі робат, пакідаючы далёка ззаду іншых спаборнікаў. Хаця ён мала ходзіць з палкамі, рыхтуючыся да паасобных спаборніцтваў, то многа трэніруецца дзеля падрыхтоўкі да спаборніцтваў па баскетболе. Ён два тыдні таму перамог падчас спаборніцтваў «Nordic Walking» у Эльблангу, а тыдзень таму заняў другое месца падчас спаборніцтваў «Nordic Walking» у Аўстрыі, — сказаў Караль Сціллер з Чанстаховы, які на дыстанцыі 5 кіламетраў прыйшоў на мэту першым у сваёй катэгорыі і першым сярод усіх удзельнікаў на гэтай дыстанцыі.

Аксана Жаліска, адзіная ўдзельніца з Украіны, заняла першае месца на дыстанцыі 5 кіламетраў сярод жанчын ва ўзросце 60-64 гадоў. Пасля спаборніцтваў на трасах, адпачынку і пачастунку, пераможцы былі ўзнагароджаны. Ахвотныя маглі праехацца па Белавежскай пушчы чыгункай. Перад хадакамі выступіў калектыў «Гармонь» з Ласінкі. Удзельнікі спаборніцтваў занялі ўсе начлежныя месцы ў Гайнаўцы і сяліліся ў аграквацерах па вёсках, даючы магчымасць падзарабіць мясцовым гаспадарам. Мае суразмоўцы хвалілі гасціннасць людзей, у якіх начавалі, і смачнае харчаванне.

Цяпер хадзіць з палкамі, згодна са стандартамі «Nordic Walking», модна як у краінах Заходняй Еўропы, так і ў Польшчы і калі б поспехі Андрэя Дзядзевіча былі моцна агучаны ў Рэспубліцы Беларусь, магчыма, што і там мода хадзіць з палкамі стала б распаўсюджвацца.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**



**Стараста Мірaслаў Раманюк стрэлам з пісталета пускаў на спаборніцтвы з палкамі жанчын і мужчын у паасобных узроставых катэгорыях**



**Андрэй Дзядзевіч з Рэспублікі Беларусь (стаіць пасярэдзіне) стаў агульным пераможцам Кубка Польшчы «Nordic Walking» на самай прэстыжнай дыстанцыі, паўмарафоне. Злева стаіць Караль Сціллер з Чанстаховы, які на дыстанцыі 5 кіламетраў прыйшоў на мету першым у сваёй катэгорыі і першым сярод усіх удзельнікаў. Справа — Лешак Мельцарак з Бытама, які на гэтай самай дыстанцыі заняў першае месца ў катэгорыі мужчын ва ўзросце ад 60-64 гадоў**



**Арганізацыя фіналу Кубка Польшчы «Nordic Walking» гэта прамоцыя Гайнаўскага павета і яго мясцовасцей на ўсю Польшчу, прапагандаванне здаровага ладу жыцця і знаёмства з вельмі прыгожай Белавежскай пушчай, — заявіла, прыйшоўшы на мэту, гайнаўская віцэ-стараста Ядвіга Дамброўская**

## Крынкаўская дэмаграфія

Зараз у Крынкаўскай гміне пражывае 3 190 чалавек у трыццаці вялікіх і малых (іх найбольш) мясцовасцях. Найбольш у мястэчку Крынкі — 2 483 чалавекі. Два гады таму ў горадзе і ў вёсках пражывала 3 239 асоб. Гміна займае плошчу ў 166 квадратных кіламетраў. 55% яе тэрыторыі займаюць сельскагаспадарчыя ўгоддзі і 37% лясы. Шчыльнасць насельніцтва 20 чалавек на 1 квадратны кіламетр. У гміне 24 салэцтвы, у тым ліку пяць у Крынках. Яна па-суседску з Шудзялаўскай і Гарадоцкай гмінамі ды мяжуе з Беларуссю.

У Крынкаўскай гміне на 100 жанчын прыпадае 96 мужчын. Многа ўдоў ва ўзросце 65 і больш гадоў — яны адна пятая частка ўсяго насельніцтва. Значна менш дзяўчат (паводле падліку на 6 працэнтаў) чымсьці іх аднагодкаў кавалераў. Ёсць тады за каго выходзіць замуж. Але, як відаць, адны і другія не спяшаюць. Мабыць, ім лепш хадзіць у старахаласцяцкім і старадзявоцкім стане. Пажэненых тут 53 працэнты ўсіх жыхароў. Зараз нямала ў гміне нежанатых ды разведзеных, сінглаў і сінгелак або такіх, якія жывуць у модных зараз няшлюбных парах.

У 2009 годзе згулялі 25 вяселляў, у 2010 годзе — 16, у 2011 годзе — 19, у 2012 годзе — 8, у 2013 годзе — 17 і ў 2014 годзе — 18. У 2014 годзе нарадзілася 25 дзяцей ды было 47 паховін. Два гады таму медалі прэзідэнта РП «За шматгадовае шлюбнае сужыццё» атрымалі пяць пар і ў мінулым годзе — дванаццаць.

Найбольшыя вёскі ў Крынкаўскай гміне гэта: Гурка (Górka) — яна налічвае 105 жыхароў, Крушыняны — 79, Кундзічы — 69 ды Паўднёвы Востраў і Плебанова — па 51 чалавек; сярэднія: Гураны — 48, Лапічы — 34, Юраўляны — 33, Нетупа — 28, Азяраны-Вялікія і Шацілы — па 23, Ляшчыны — 18, Саннікі — 17, Цюмічы — 16 ды Нетупа-Калёнія і Азяраны-Малыя — па 15.

Самымі малымі паселішчамі ў гміне з'яўляюцца: Кнышаўка — 1 жыхар, Азерскія, Халодныя Валокі, Старая Грыбоўшчына і Студзенка — па 2, Нетупа-Млын — 3, Барсуковіна і Трэйглі — па 4, Белагорцы — 7, Новая Свідзялаўка — 9, Новая Грыбоўшчына і Рудакі — па 11, Падліпкі — 12 і Ласіняны — 14 жыхароў.

Адыйшлі ў нябыт паселішчы Аляксандраўка, Жылічы, Падшацілы, Плянта, Раховік, Сарачыншчына, Слабодка, Ямашы. У іх няма ўжо жыхароў.

## Капаюць бульбу ў Ляўкове

У палове верасня гэтага года ў вёсцы Новае Ляўкова Нараўчанскай гміны (Гайнаўскі павет) сяляне ўзяліся за ўборку бульбы. Адным з сігналаў да такіх палявых прац была халодная раніца 15 верасня. Шыбы аўтамабіляў пакрыліся інеем. Я ехаў роварам дарогай паўз рачулкі Баброўкі (прытоку ракі Нараўкі) і так змёрз у рукі, што хуценька надзеў рукавіцы. Сёлета дагэтуль у верасні такога раніншяга холаду яшчэ не было.

Пасля такой раніцы дзень быў сонечны і цёплы. Мае аднасяльчане, між іншым, сем'і Галубоўскіх, Ігнацюкоў і Скепкаў выйшлі збіраць бульбу, якую выаралі бульбакапалкамі. На сёлетні ўраджай бульбы яны не наракалі. 17 верасня г. г. (субота) запланавалі капаць бульбу іншыя мае суседзі. Яны чакаюць прыезду і дапамогі сваіх гарадскіх дзяцей.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# «Сенька» ў Склепе з культурай

**Юрка Асеннік — графік, дызайнер, фатограф і музыка, вядомы не аднаму пакаленню беларусаў, 15 верасня распавёў пра сваю творчую дзейнасць і прадставіў частку сваіх графічных прац на чарговым Дыскусійным клубе «Паразмаўляем пра...» у Склепе з культурай пры Падставовай школе № 4, які вядзе згуртаванне АБ-БА. Сустрэць гэтага мастака цяпер на Падляшшы нялёгка. Але, як адзначыў, гэта „вялікая адвага назваць сябе мастаком”, і не лічыць мастацтвам таго, чым займаецца, а хутчэй добрым рамяством: „Я проста стараюся рабіць тое, што раблю, добра”.**



— Можна сказаць з аднаго боку, — адзначыў вядучы сустрэчу Мікола Ваўранюк, — што госцем у нас з'яўляецца чалавек, які прыехаў здалёк, з другога — наш да крыві мясцовы, тутэйшы, якога ўсе вельмі добра ведаем у розных іпастасях. Цяжка пералічаць, чым ён займаўся і займаецца ў жыцці. Тыя, што пастаянна ходзяць на імпрэзы АБ-БЫ, ведаюць, што гэты лагатып — аўтарства «Сенькі» — Юркі Асенніка. Я хацеў бы пачаць ад кніжкі — для мяне яна адна з найпрыгажэйшых, якія тут з'явіліся і якія я трымаў у руках. Гэта кніжка «Ой даўно даўно», якая такі воблік мае дзякуючы якраз Юрку, таму што ён да болю ўчэпісты за дэталі, ніколі не задаволены тым, што робіць і лічыць што яшчэ лепш можна зрабіць. Ёсць у мяне яшчэ іншая кніга Сенькі, вельмі асабістая — «Запіскі» з яго фатаграфіямі. Нядаўна наша дачка Ніна патэлефанавала нам з Вроцлава: «Супер! Першае што я ўбачыла, уязджаючы ў Вроцлаў, гэта праект «Сенькі» — «Вроцлаў — Еўрапейская сталіца культуры». Ты па гэтай спецыяльнасці фармальнай адукацыі не маеш. Якімі якасцямі трэба адзначацца чалавеку, што трэба ўмець выйграць такі прэстыжны мастацкі конкурс як на лагатып горада сталіцы еўрапейскай культуры?

— Справа была вельмі простая. Першы раз прыняў я ўдзел у такім конкурсе. Некалькі чалавек падсылала мне лінкі пра тое, што ёсць такі конкурс. Мне здалося гэта вельмі простым — ідэю выдумаў у адну хвіліну, рабіў лагатып пяць хвілін, не болей, і даслаў. Пасля патэлефанавалі, і гэта быў шок. Мяне гэта ўсхвалявала, і я хацеў пабачыць, якія былі іншыя працы, каго я перамог. Быў скандал, было шмат абураных, якіе не пагаджаліся з вердыктам журы, і палілася на мяне хваля гейту. Чаго я з яго не даведаўся! А мне проста пашанцавала. Яшчэ прыняў я ўдзел у адным конкурсе, але зашмат мяне гэта каштавала нерваў. Расказаць пра гэта цяжка, што я хацеў паказаць. Проста адчуваў, зрабіў, і кожны бачыць столькі, колькі можа. Калі дызайн добра зроблены, ты не бачыш таго дызайну, што хтосьці напрацаваўся, здаецца што гэта з'яўляецца такім простым. А простыя рэчы — самыя цяжкія.

— Скуль узялося тваё захапленне мастацтвам, рысункам, і як яно развівалася?

— Побач мастацтва я толькі «сядзеў». Гэтае, чым я займаюся, лічу проста рамяством. Пачалося гэта з хаты. Мастацтва нас акружае кожны дзень. Было ў мяне ў хаце шмат альбомаў з жывапісам, мама нас вадзіла ў музеі, ездзілі таксама ў Варшаву і далей, нейкія традыцыі былі дома. Мамін брат быў мастаком, малююць мая мама і сястра. Была проста зацікаўленасць у хаце. Вялікі ўплыў мела царква — і спеў, і архітэктура, і іконы.

— Ты спалучаеш два віды мастацтва, якімі цікавішся, у якіх развіваешся. Гэта рэдкая з'ява, бо людзі займаюцца або візуальным мастацтвам, дызайнам, хай нават рамяством, графікай, або музыкай. Гэта зусім розныя светы. Ці на гэта ўплыў мела тая царква?

— І царква, і школа, і тэлебачанне. Усё, што мы чытаем, слухаем, бачым — гэта наш інтэлект, свет, наша адчуванне, наша ўражлівасць. А царква гэта і гісторыя, і мастацтва. Нічога не паяўляецца само з сябе, з ніадкуль. Калі не ведаеш, адкуль ты прыйшоў, не ведаеш, куды ісці. Першы спосаб гледжання на свет гэта раз — ікона, гэта такі сінтэз, мінімум. Я — мінімаліст. З другога боку — савецкае кіно, зараз і расійскае кіно, і польскае. Усё — Андрэя Таркоўскага, але і такія фільмы як «Летят журавли». Памятаю, як у нас настаяцелем стаў Лявонцій Тафілюк, і два аўтобусы паехалі ў Варшаву, на паказ «Андрэя Рублёва». Мне тады было гадоў дзесяць або і меней. Памятаю, як ён фарбай мажа па сцяне, як вада зліваецца ў ваду... Гэта ўсё — жывапіс. Гэта — кінамастацтва...

Юрка Асеннік прынёс з сабою крыху сваіх прац. Лагатыпы, плакаты, праекты і вокладкі кніг...

— Выданні — гэта тое што я найбольш люблю рабіць і чым хацеў бы выключна займацца. Складаць кніжкі. А якія ў нас кніжкі былі! Калі я трапіў у кнігарню ў Нью-Йорку, дык паўдня з яе не выйшаў, не мог надзівіцца, як выдаюцца кніжкі. Маю такую мару, каб нашы кніжкі выдаваліся на такім узроўні, як гэта робіцца ў Еўропе, у свеце. Вось тут праект, які ў Беластоку ў Таварыстве ВІДОК рабілі, Грэсь Дамброўскі шмат робіць, каб старыя здымкі з абодвух бакоў беларуска-польскага памежжа сабраць... Я тут укідваю розныя вокладкі публікацый. Тут — для Галерэі «Арсенал», для царквы, для «Даўно даўно», а тут мая зялёная — было іх толькі трыццаць паасобнікаў. «Басовішча», у 2009 годзе — лагатып, чарговыя гады — афішы. Наколькі памятаю, для першага «Басовішча» я рабіў афішу...

**МАСКА**
**Сенька**

чацьвёртая зранку, ты яшчэ спакойна сьпіш,
прачынаецца горад, неўзабаве і ты.
ізноў пачнецца прытворнасьцяў ігра,
раўнадушнасьці маска заменіць твар.
у пастцы ілжы ды жэстаў на паказ,
галоўна ня думаць — дзеля чаго:
так, біцца, бегчы, няведама куды
галоўна ня думаць: мець ці быць?
час нічога не мяняе, не суціхае страх,
гэты горад як атрута забівае нас,
адурвае прынадай лепшага жыцьця,
ілюзыя зьдзяйсьненьня, посьпеху мана,
а маска цісьне ўсё болей, мамона хоча жраць,
час нічога не мяняе, не суціхае жаль:
подыху каханьня, прасторы волі, смаку слоў,
забытага пытаньня: мець ці быць?
не я не той, не ваш! гэта толькі маска,
а ня мой сапраўдны твар
не я ня той, ня ваш! маска болей ужо ніколі,
не ўрасьце ў мой твар.

— Мы памятаем — з крыллямі свіння!

— Тады быў файны час, не было камп'ютараў, з іншага плаката выразалі мы тое-сёе і ўклеілі свой *(смех)*. З крыллямі свіння была на другім «Басовішчы». А тут праекты з фірмы, дзе выдумляў я лозунгі і слоганы, а тут — інфаграфік для мультыкіно і для вэб-старонкі. І для Вэдля. А гэта праекты, якія не былі зроблены. Часам глядзіш на штосьці — а чаму я гэтага не выдумаў! Але здараюцца такія вельмі прыемныя моманты, калі ты нешта зробіш, нейкі час мінае, і нехта зрабіў падобны матыў. Раблю таксама майкі — напрыклад, «Гавары па-свойму», «Жулік». Нават «мэткі», якія друкуюцца на вырабе — важная кожная дэталь. Часам у дэталі і ўсё заключаецца. Часам раблю рэчы, якія клею ці малюю па сценах. «Тройца» ў выглядзе бежанцаў... Вось макет «Запісак». Было толькі пяць паасобнікаў. Фатаграфіі раблю толькі сотавым тэлефонам і вельмі многа з гэтага ёсць проста выпадковым. Гэты здымак зроблены для трансляцыі па Майдане, калі пачалі страляць: гэты чалавек — герой Майдана, таму што ён адмяніў лёсы, з раніцы ўсе разбегліся, а яны збіраліся на штурм, калі ўжо былі ахвяры... А тут бацькі, маленькая на ложачку — мая мама, а дзед вярнуўся з фронту. Гэта проста, як я называю, «запіскі», такі дзённік. З левага боку — «Антыгона» ў Крынках, з правага — Алесь Малчанаў. Тут — на кіркуцэ ў Крынках. Рэанімацыя сінагогі. Я некалькі гадоў вяду блог. Там гэтыя ўсе здымкі можаце знайсці — на інтэрнэт-блогу *plajster.wordpress.com*. На самую працу часу няма, а так для прыемнасці — вельмі рэдка шаржы малюю, раблю трафарэты, каб папэцкаць на сценах. Гэта я вельмі люблю!

— Музыка. «Басовішча». РФ «БРАГА», «085» — гэта цэлы акіян гукаў, успамінаў...

— Усё гэта завяршаецца. Пачынаюцца новыя рэчы. Запісалі мы ўжо альбом «085», думаю, што ў лістападзе будзе развітальны канцэрт, у Беластоку. Цяжка сабраць усіх. Пісаць альбом — гэта і грошы, і шмат працы. Дарыян Младзяноўскі ўсіх намовіў, усім заняўся, знайшоў грошы. Трэба запісаць і кончыць гісторыю. Гэта нейкі час, які ўжо быў. Мы ў іншым месцы, іншы і я. Гэтыя тэксты цяжка ўжо спяваць. Яны былі вельмі эмацыянальнымі, вельмі абгрунтаванымі ў жыцці. А я ўжо іншы чалавек, у іншым месцы. Няма ўжо нават такой патрэбы, каб так жорстка выступаць. Вядома, ёсць эмоцыі. Але так жыццё складваецца. Магчымасці прыходзяць самі. І праекты, і графіка. Калі гэтым жывеш — тады гэта працуе. А я музыкай цяпер так не жыву. Няма гурта. Гурт гэта перш за ўсё сяброўства, а мы цяпер іншыя. А чым для мяне з'яўляецца «Басовішча»? Тым, чым для нашых бацькоў... Грабарка. Нашы бацькі, каб спаткацца, ездзілі на Грабарку, памаліцца і гэтак далей. А мы збіраліся і збіраемся, каб сустрэцца. Раз у год. Я сустракаю сябра свайго маленства, які цяпер жыве пад Люблінам, толькі на «Басовішчы». Ён прыязджае дзеля таго, каб са мною сустрэцца. «Басовішча» гэта была вельмі бурлівая гісторыя. Гэта кавалак і майго жыцця. Нашага. Чалавек і захварэў на штосьці, і ачуняў, і ачуняў... 

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

# САКОЛЬСКІЯ СМАКІ мужыцкай гісторыі

**Больш даверылі вясковым гаспадыням, веды якіх абапіраюцца на шматгадовыя традыцыі, чым вопытным кухарам з самых лепшых рэстаранаў. Ян і Лукаш Анцыпы, бацька і сын, стварылі сваю ўнікальную марку, якая стала вядомая не толькі ў Польшчы, але ў такіх краінах як Японія ці Кітай. Дзякуючы ім стравы бедных сакольскіх мужыкоў, якіх часта саромеліся сакальчане, сёння сталі эксклюзіўным таварам — у гастранамічным жаргоне — таварам-прэміумам.**



■ Ян Анцыпа сярод сваіх кумпякоў



■ «Карчма пад сокалам»



У падарожжах, куды б мы не паехалі, каб уражанні былі поўнымі, варта паспрабаваць рэгіянальнай кухні. Пазбавіцца на момант кулінарных звычак і адкрыцца на новае, часам на дзіўныя стравы. Гэта магчыма банальныя тэзісы, але ў «Карчме пад сокалам» у Саколцы яны асабліва пацвярджаюцца. Перш за ўсё гэта сертыфікаваны гастранамічны пункт, які ў сваім меню прапануе традыцыйныя стравы рэгіянальнай кухні. Чарговым важным элементам з'яўляецца магчымасць пазнання мясцовай традыцыі і кулінарнай культуры.

— У нашым меню няма выпадковасці, — падкрэслівае ўласнік "Карчмы пад сокалам» Лукаш Анцыпа. — Кожная страва, якая знаходзіцца ў нашай карце, нясе за сабою частку мясцовай гісторыі, грунтуецца на лакальных прадуктах, якія купляем ад мясцовага насельніцтва — ад мяса па агародніну. Апрача таго ў нашай карце знаходзіцца інфармацыя аб даўнейшых прадуктах, якія «вярнуў да жыцця» мой бацька. Дзякуючы гэтаму можна не толькі смачна з'есці, але пры нагодзе даведацца пра ўмовы жыцця мясцовых людзей, спецыфіку мовы.

Анцыпы маюць павагу да традыцыі, але адначасова ў іх адкрытыя галовы. Яны клапоцяцца пра старыя рэцэпты, аднак эксперыментуюць, мадыфікуюць і паляпшаюць іх. І нават гатовыя вітаць нас у сваіх «майстэрнях», якія самі сабою сведчаць аб тым, колькі сэрца і запалу патрэба, каб атрымаць, напрыклад, адзін сыр. Або колькі месяцаў трэба чакаць, каб даспеў кумпяк.

— Солім такі кумпяк, вешаем у сушылцы — гэта спецыяльнае месца, дзе няма мух ці іншых насякомых, якія маглі б пашкодзіць мясу, — кажа Ян Анцыпа, які вырабляе кумпякі ў падсакольскай вёсцы Павелкі. — Кумпяк павінен вісець прынамсі год, а найлепш смакуе пасля двух гадоў. Гэта доўгая песня. І, вядома, трэба ў гэтым часе даглядаць яго: чысціць, мыць, ветрыць. Многа работы пры гэтым. Маючы на ўвазе працу і той факт, што пасля сушэння кумпяк на адну чацвёртую зменшае свой аб'ём, цана невысокая.

Сакольскі кумпяк, на прадукцыю якога выключнасць мае сям'я Анцыпаў, смакам заваяваў не толькі Польшчу, але і другія краіны свету. Аказваецца, гэта не Іспанія ці Італія вядзе рэй у такога тыпу мясных вырабах, а менавіта Сакольшчына. Лукаш Анцыпа з групай вытворцаў экалагічнай яды аб'яднанай у арганізацыі «Польская экалогія» сёлета прэзентаваў сакольскі кумпяк у Токіо і Сінгапуры. Як аказалася, і там «мужыцкая» шынка з Сакольшчыны знайшла сваіх фанатаў.

— Хаця ўсім такія даспяваючыя шынкі асацыююцца з Італіяй ці Іспаніяй, гэта наш рэгіён, наогул тэрыторыя Вялікага Княства Літоўскага, мае шматвекавую традыцыю вырабу такога кумпяка, — тлумачыць уласнік «Карчмы пад сокалам» Лукаш Анцыпа. — Не толькі таму, што для такога тыпу вяндліны спрыяе наш умераны клімат, але таксама па гэтай прычыне, што кумпяк быў таннай ядой, прысутнай у кожнай мужыцкай хаце, што паспрыяла выпрацоўцы найлепшага рэцэпту.

Апошні конкурс, ладжаны «Кулінарнай акадэміяй», «Карчма пад сокалам» была аб'яўлена самай лепшай на Падляшшы. На думку ўласніка Лукаша Анцыпы, жыхары Падляшша штораз больш адкрываюцца на новыя смакі, ахвотна каштуюць новыя стравы і прадукты, у прыватнасці рэгіянальныя, якія выбіраюць часцей, чым агульнадаступныя.

— Аказваецца, што шукаем прадуктаў натуральных, свежых і высокай якасці, — падкрэслівае Лукаш. — З такімі прыкметамі мы звязваем рэгіянальныя прадукты. За іх высокую якасць і ўнікальныя смакі мы ўжо гатовыя заплаціць больш. Прычынай таго з'яўляецца факт, што ў нашай прасторы замнога таго, што масавае і стандартнае, а мала таго, што аўтэнтычнае і ўнікальнае.

Вядома, на пачатку прызнанне сваіх прадуктаў Анцыпы здабылі ў кулінарных знатакоў. Кулінарны крытык Марцін Новак прысвяціў сакольскім стравам цэлую праграму «Кулінарныя падарожжы» на тэлеканале TVN. Апрача таго сакольскі кумпяк можна знайсці ў самых эксклюзіўных рэстаранах Польшчы. Таксама ў кожнай серыі папулярнай тэлепраграмы «Hell's Kitchen» прысутная сакольская вяндліна як тая, якая мае інспіраваць і быць выкарыстоўванай удзельнікамі праграмы для падрыхтоўкі новых страў.

Добрым спосабам, каб пазнаць і пасмакаваць сакольскую кухню, з'яўляецца наведанне «Карчмы пад сокалам». Гэта выдатны спосаб не толькі адкрыць для сябе смачныя стравы, якія рыхтуюцца ў адпаведнасці са стогадовымі рэцэптамі нашых бабуль, але сапраўднае пазнанне аўтэнтычнасці таго месца.

Можна сказаць, што Анцыпы не толькі ўзбагацілі кулінарнае мастацтва даўнейшых смакаў Сакольшчыны, але перш за ўсё даказалі, што мужыцкай культуры не варта саромецца. Бо са страў, якія былі створаны з бяды, зрабілі свой козыр. Удалося ім вярнуць не толькі аўтэнтычны смак, але вярнулі таксама аўтэнтычныя беларускія назвы страў. Пры тым даказалі, «што не адным хлебам жыве чалавек».

Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ

## Час падвесці вынікі

Схільнасць пісаць хранікёрскія занатоўкі доўжыцца ў мяне з юнацкіх гадоў. Нагоды для гэтага было шмат. У Кузаве актыўна дзейнічалі маладзёжныя арганізацыі ЗМВ (Саюз вясковай моладзі), ЛПЖ (Ліга сяброў салдат) і драматычны гурток. Часта арганізавалі мы культурныя мерапрыемствы. З канцэртамі выязджалі ў навакольныя сёлы. Запіскі з падарожжаў рэгістраваў я ў хроніцы. З «Нівай» пачаў я супрацоўнічаць, калі ёй споўнілася тры гады. Першы допіс «172 зл. у год на газеты і часопісы» быў надрукаваны ў 16 нумары ад 19 красавіка 1959 года. Гэта была кароценькая інфармацыя пра старэнькага дзядулю Юсціна Саласцюка з Кузавы. Затым былі іншыя. Надрукаваныя тэксты я вырэзваў ды складаў у папку. Па сённяшні дзень захоўваю іх у дамашнім архіве. Пісаў я замалёўкі са сваёй роднай вёскі і чыгуначнай Чаромхі. Дасылаў шмат крытычных тэкстаў. З кожным годам супрацоўніцтва з «Нівай» замацоўвалася. Неаднойчы наведваў рэдакцыю. Пазнаёміўся з журналістамі. Сапраўды сяброўскія кантакты завязаў з Міхасём Шаховічам. Быццам браты парадніліся. Гасцяваў я ў ягоных бацькоў у Саках на Бельшчыне. Прыемны захаваўся ўспамін. Сардэчныя адносіны ладзілі з Віктарам Рудчыкам, Мацеем Канапацкім, Міхасём Хмялеўскім ды Васілём Баршчэўскім. Не гавару ўжо аб Веры Валкавыцкай ці Яніне Чэрнякевіч. Сімпатычных калег пазнаваў на карэспандэнцкіх з'ездах: Васіль Петручук, Эдзік Вайсковіч з Гайнаўкі, Аляксандр Закройшчык з Кленік, Мікалай Панфілюк з Дубіч-Царкоўных, Мікалай Лук'янюк з Бялкоў, Грыша Мароз са Старога Беразова, Пятрусь Байко з Белавежы, Віктар Бура з Гайнаўкі, Уладзімір Хомік са Слоі, Мікалай Няплоха з Бельска, Жэня Мартынюк з Зубава, Лена Тапалянская з Трасцянкі. Многія з іх адышлі на вечны спачын (няхай ім зямля будзе пухам). Іншыя спынілі супрацоўніцтва. Найбольш актыўнае супрацоўніцтва склалася ў мяне ў сямідзясятых і васьмідзясятых гадах. У рэдакцыі лічылі мяне актыўным супрацоўнікам. Шмат гадоў узначальваў карэспандэнцкі авангард (у першай тройцы). Але і хістаўся на раздарожжы. Некалькі год вымушаны быў «адпачываць». Паўплывалі на гэта як адмоўныя адносіны мясцовага асяроддзя, так і супрацоўнікаў на чыгуначнай станцыі ў Чаромсе, дзе я працаваў. Аднак кантактаў з «Нівай» не парваў. З ходам гадоў папраўляліся мае рэпарцёрскія ўмеласці і тэхнічныя ўмовы. Купіў кам'пютар і лічбавы фотаапарат, прывучыўся карыстацца інтэрнэтам. Паколькі першыя допісы пісаў я неакуратна, паколькі не ведаў правапісу (у школе я не вучыўся беларускай мове), дык зараз аваладаў граматычныя правілы. «Ніва» была маім лепшым сябрам і настаўнікам. І за гэта шчырае дзякуй сябрам журналістам. Асаблівыя словы прызнання выношу майму прыяцелю, ужо пенсіянеру, Віталю Лубу, таксама рэдактару Яўгену Вапу, які дапамог мне забяспечыцца кірылічнай клавіятурай і навейшым польска-беларускім слоўнікам.

За перыяд свайго супрацоўніцтва напісаў я дагэтуль амаль паўтары тысячы тэкстаў. 640 допісаў было надрукаваных да 1999 года, апошнія — па сённяшні дзень. Багаты гэта плён. Лічу што на гэтым не скончыцца. У сакавіку г.г. «Ніве» споўнілася 60 год. З гэтай нагоды віншую Юбілярку і жадаю дачакаць наступных святкаванняў у шчасці і здароўі.

**Уладзімір СІДАРУК**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі



# ЛІСІЦА І ЗБАНОК

Пайшла адна баба жаць і пакінула збанок са стравою на мяжы, ажно прыбягае ліска, усадзіла галаву ў збанок: лізь, лізь, лізь, лізь – нахлёбалася дый вымае галаву, а тут ніяк не выняць. Бяда!

– Ой, утаплю збан! – кажа. А збанок адказвае:

– Тапі!

Ліска, няма рады, пайшла да ракі са збанком. Прыбегла, садзіць галаву:

– Пусці, бо ўтаплю!

– Тапі!

Яна ўсадзіла глыбей, у збанок вада набралася і ліску ў раку пацягнула. От настрашыла збанок!




# Браты Здрайкоўскія зноў здзівілі!

Пра такіх кажуць: да танца і да ружанца. Калі Фонд «Беласток бегае» абвясціў гарадскія прабегі, вядомыя як «Homeschool Run», нашы сябры — браты Міколка і Алесь Здрайкоўскія захацелі яшчэ праверыць свае магчымасці ў бегах. З дапамогай прыйшла мама, якая аформіла справу, то-бок зарэгістравала іх удзел па інтэрнэце.

У гонках маглі ўдзельнічаць усе аматары бегаў. Найбольш цаніліся энтузіязм і адвага. Пасля ўсе бегуны атрымалі ў падарунку кашулькі і медалі, а таксама шакаладкі, сок і ваду. Вядома, усё гэта цешыла, аднак найбольш радасці і гонару прынесла свядомасць удачы ды здзяйсненне нялёгкага выкліку.

Таксама Алесь і Міколка ганарацца ўдачай.

Братоў Здрайкоўскіх, вучняў беластоцкай «чацвёркі», ведаем з маленства. Яны — зоркі беларускага школьнага тэатра, музычнай сцэны і прадметных конкурсаў. Спартовы поспех, які паказаў іх духовую і фізічную сілу, толькі папоўніў прыгожы спісак.

**Зорка**

Фота Марыі Здрайкоўскай



Нарва прадстаўляе «Капанне бульбы»

*Міра ЛУКША*

## *Каштан*

*Пасадзі ў глебу арэшак,*
*карычневы, з вочкам,*
*ён прарасце няспешна*
*цёплым дзянёчкам.*
*Гадоў праз пяць на тры метры*
*каштанаў пень ужо высокі,*
*карэнне глыбока ў нетрах*
*будзе яму несці сокі.*
*Цень раскідзістай кроны*
*ў спёку цябе схавае,*
*летам пальчаста-зялёны,*
*з пірамідным кведцем у маі.*
*Восенню жоўта-багровы,*
*у калючых шапачках скіне*
*сыночкаў сваіх каштановых,*
*каб мы пагулялі з імі,*
*ці зноў пасадзілі, каб новых*
*каштанаў узраслі пакаленні,*
*шумелі нам на здароўе,*
*у вянку сусвету нятленным.*

## УВАГА КОНКУРС! № 39-16

**Загадкі з роднай хаткі**

**Звер вядомы ён усім —**
**І старым і дзецям:**
**Футра цёплае на ім,**
**А завуць**
**М.........**
**(Алесь Якімовіч)**

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 2 кастрычніка 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 36: падасінавік. Узнагароду, значок з беларускім матывам, выйграла Вікторыя Гаць з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

Рыгор САКОВІЧ
ПШ у Нараўцы

### Вожык

Пад елкай вожык сядзіць.
І на спіне яблык ляжыць.
Вожык прыпасы збірае
І ў норку хавае,
Каб зіму пераджыць
І галодным не быць.



Нараўка ў Дзеда Мароза

Ізабела БАРОЎСКАЯ
КШ у Нараўцы

### Сланечнік

Які харошы сланечнік
Вырас у агародзе!
На свет важна пазірае
І ўсіх да сябе склікае,
Каб прыйшлі падзівіцца,
Што ён найвышэйшы.
Многа зярнятак мае
І на ўсіх зверху спаглядае.

Вікторыя ГОСЦІК
Саколе, ПШ у Міхалове

### Восень

Ідзе спадарыня Восень,
Кошык холаду нясе з сабою,
Кошык ветру і дажджу,
Яшчэ пэндзлік з фарбамі,
Каб нам свет памаляваць
І нам сваю прыгажосць
паказаць.

## Вершы Віктара Шведа



### Мяшок Святога Мікалая

Раніцай Святы Мікола
Прыйшоў да дзяцей у школу.
А чамусьці малы Якаў
Нечакана пачаў плакаць.

— Плакаць перастань, сынок,
Бо вазьму цябе ў мяшок.
— Не бярыце
— просіць Верка,
Ён Вам з'есць усе цукеркі.

### Матацыклет

— Закупіў мой добры тата
Дарагі матацыклет.
Буду ездзіць ім заўзята,
Пазнаваць шырокі свет.

— Які свет маеш на прыкмеце?
Запытаўся вучань Клім,—
Ці па гэтым ездзіць свеце,
Ці ўжо можа па другім?

*Замкі і палацы Беларусі*

# БЕЛАЯ ВЕЖА З ЧЫРВОНАЙ ЦЭГЛЫ





Белавежская вежа — адзін з найстарэйшых помнікаў Беларусі. Пабудаваная яна ў XIII стагоддзі на ўзбярэжжы Белавежскай пушчы. Вежа мае абарончы характар. У XIII стагоддзі, калі на беларускія землі наехалі рыцары-тэўтонцы і мангольская арда, вежа была надзейным сховам і абаронай. У Беларусі падобныя вежы мелі іншыя гарады: Бярэсце, Гародня, Радашковічы, Мсціслаў, Мядзёл, Полацк, Шклоў, Навагрудак, Тураў. На жаль, да нашага часу яны не захаваліся.

Белавежская вежа — будынак велічны. Яна мае 30 метраў вышыні і сцены на 2,5 метра таўшчыні. Верхнюю частку аздабляе зубкаватая карона, якая прыдае будоўлі характар. У ранейшыя стагоддзі яе называлі Камянецкай вежай або Камянецкім стоўпам. Невыпадкова. Вежа стаіць у цэнтры старажытнага Камянца. Яна, нягледзячы на назоў, пабудаваная з чырвонай цэглы. «Белая» яна з-за легенды, якая кажа, што крэпасць ніколі не была здабыта!

Сёння ў будынку працуе гістарычны музей. Кожны, хто збіраецца на экскурсію да Дзеда Мароза, не можа абмінуць гэтага атракцыёна. З вышыні вежы, адкуль добра відаць пушчу, лягчэй усвядоміць сувязь паміж нашымі землямі. Уніізе ўецца рака Лясная, якая бярэ пачатак непадалёк Гайнаўкі. Калі ісці па простай лініі з Камянца на Падляшша, — гэта адносна недалёка — мы патрапім у наваколле Святой Гары Грабаркі. Па дарозе патрапім яшчэ ў Такары, дзе нарадзіўся бацька беларускай гісторыі Усевалад Ігнатоўскі. Яго імя прысвоіла гарадская бібліятэка ў Камянцы. **(гак)**

## Польска-беларуская крыжаванка № 39-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 35:**

Кран, асёл, пакаленне, памідоры, ах, табар, арабінка. Пара, пах, Адам, кіт, вада, лоб, сфера, нырка, персік.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Сара Скаўронская** з Беластока і **Вікторыя Гаць** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

Niebo, Pozer, Kil, Kaczeniec, Groch, Ganek, Usta, Lato, Siano, Pi, Ar, Las, Rap, Liczba, Alt, Łabędź, On, Kapitan, Pika, Uzda

# Тамара — літоўская князёўна

**У абыякавай кампаніі сала лебедой, у добрай — лебяда салам. Дакладна ў час гаманлівага крынскага «Трыялога» ў Нарэйках пад Гарадком адбыўся чарговы, ціхі «Нарай» Тамары Болдак-Яноўскай. Сустрэча з году ў год курчыцца па форме, але не па змесце. Няма тут штучнай філасофіі, вымушаных інтэрпрэтацый, пералівання з пустога ў парожняе ці з поўнага ў пустое. У Тамары гавораць выключна паэзіяй і прозай, часам лепшай, часам горшай, але заўсёды ад сэрца. Усё тут простае і зразумелае: вёска, хата, мова, пачастунак, песня і цалкам пазбаўлена эгаізму і часткова жаноцкасці, драматычная «Ксенія» аўтарства Іаанны Стэльмашук-Троц і Тамары Болдак-Яноўскай.**


Тамара ў сваім «Нараі»

У Нарэйкі еду на веласіпедзе. Да багажніка прывязваю бляху яшчэ цёплага, дражджавога пірага. Ззаду застаюцца задушлівыя клубы інтэлігентных дыспутаў. Сярод сапраўдных людзей і з іх радасцю, болем, поспехам і няўдачай адчуваю сябе свабодна, лёгка, бестурботна.

Гасцей «Нарая» вітаюць развешаныя на сцяне хаты вялікія, чорна-белыя, смярротна-халодныя партрэты яго гаспадароў — Тамары і Антона. Побач з партрэтамі — іх вершы ў такім жа настроі.

— Здымкі паходзяць з выстаўкі, якую Войцех Кас рабіў у лесніцоўцы Пране, — кажа Тамара. — З алейкі партрэтаў, выбраных ім паэтаў і пісьменнікаў. Ён таксама падбіраў вершы. Мой «Pytania do samobójczyni», прысвечаны смерці малодшай дачкі лепшай сяброўкі. Паходзіць з найбольш сумнага зборніка «Rozdziały». У гэтым вершы ўспрымаю яе самагубства, хаця не да канца я ў тым упэўнена. Нас не было ў хаце, калі яна ўпала з акна шматпавярховага будынка. Я захацела ўвайсці ў гэтую сітуацыю, у адчуванні чалавека, які ляцідь з акна шматпавярховіка.

**— У прошлым годзе «Нарай» аздабляў каляровы жывапіс маладых творцаў.**

— Сёлетні выбар звязаны з круглай, сямідзясятай гадавінай маіх народзінаў. Я ніколі не святкавала дня нараджэння. Цяпер падазраваю, што наступнай, круглай гадавіны ўжо не дачакаюся. Я думала паказаць тут таксама маю аўтарскую, сатырычна-філасофскую графіку. Вельмі люблю філасофію.

**— Яшчэ ўчора Вы вельмі непакоіліся, што ніхто сюды не прыедзе.**

— Я заўсёды непакоюся, ці нехта прыедзе. Першапачатковa «Нарай» быў сямейным з'ездам. Часам прыязджае сюды шмат людзей, часам гэта камернае спатканне. Адно і другое мяне задавальняюць. Заўсёды абавязвала тут кармазынавая вопратка. У гэтым годзе я спалучыла чорнае з чырвоным, някепска, па-д'ябальску. На жаль, ужо другі год запар «Трыялог» арганізуюць адначасова з «Нараем». Два месяцы таму я звярнулася да арганізатараў «Трыялога» з Фонду «Віла Сакратэс» з просьбай праінфармаваць аб тэрміне іх мерапрыемства, паколькі ніякай весткі ў інтэрнэце я не змагла знайсці. Нават не адгукнуліся. Гэта для мяне зусім незразумелае.

«Нарай» для мяне — гэта вяртанне ў тоеснасць, а яна тут заўсёды неаднародная. Няма тут аднамоўных людзей. Яны заўсёды двух- альбо трохмоўныя. Так было ў Вялікім Княстве Літоўскім, у межах якога знаходзіліся Нарэйкі. Непакоіць факт, што ў недалёкай будучыні ў Нарэйках, не лічыўшы дачнікаў, не будзе жывой душы. Не хапае адвагі, каб сходзіць на свой стары панадворак за вёскай, пры чыгуначным пуці. Чыгунка разабрала нашу хату. Там прайшло маё дзяцінства, там працавалі бацькі. Міфічная краіна, якая стала інспірацыяй для маёй кніжкі пра старое племя нараяў. Я недзе прачытала, што навакольныя вёскі закладалі габрэі. Пакінулі па сабе такія прозвішчы як Абрамовіч, Якубовіч. Пасля змяшаліся яны са славянамі і татарамі, у тым ліку з маім бацькам — нашчадкам татараў, палкоўнікаў Яна III Сабескага.

**— Запынімся на хвілінку на Вашай шматкультурнай тоеснасці. Учора ўначы я чытала Вашы польскамоўныя паэтычныя зборнікі. Пішаце таксама на мове, якую называеце простай.**

— Я чытала недзе, што на думку шляхты ВКЛ, беларускай мове, званай простай, найбольш падыходзіць лацінскі алфавіт. Той алфавіт улічвае ўсе моўныя асаблівасці. Я да сваіх тэкстаў выбрала лацінку, таму што я не ў змозе карыстацца кірыліцай. У школе беларускай мове мяне не вучылі. Але я добра чытала адразу на трох мовах. Яшчэ ў дашкольным узросце чытала я па-польску, па-беларуску і па-руску. Алфавітаў вучылася сама, падбіраючы расказаныя мамай вершы да літар убачаных у кніжках. Першым словам, вывучаным на ўсіх трох мовах, было «мама». І так ужо засталося, што ўмею чытаць, але не напішу. Усё-такі я зразумела, што калі шляхта выбрала лацінку для запісу народнай формы беларускай мовы, значыць, я таксама павінна гэта зрабіць. Не прыняўся ў нас чэшскі запіс, прапанаваны Максімюком. Зашмат там усялякіх лукаў над літарамі. Замест запісваць думкі я на клавіятуры камп'ютара шукала гэтых лукаў. Мне патрэбны звычайны, польскі алфавіт. Мова простая — зразумелая для кожнага паляка. Беларуская пawandравала ў бок журналісцкага жаргону, там таксама іншае вымаўленне. Такім чынам у народнай форме беларушчыны я пачала ствараць філасофскія нарысы. Выявілася, што на гэтай мове магчыма сказаць усё. Зважаючы, што філасофія абапіраецца на думкі простага чалавека і дзіцяці, гэта тое, што мне было патрэбна. Просты чалавек, так як і дзіця, ставіць простыя, экзістэнцыяльныя пытанні. Вучоны стварае ўласны, палітычны светапогляд. У XXI стагоддзі абмяняюцца не філасофскія, але палітычныя светапогляды. Мае філасофскія нарысы абапіраюцца на дзіцячых думкі, таму яны зразумелыя, так прынамсі мне здаецца.

**— Мне асабіста фармулёўка «мова простая» гучыць даволі негатыўна.**

— Калісь, у ольштынскай ратушы, зачапіла я нейкага прафесара: «Czy pan, może, jesteś ź Wilna?» — «Ž Wilna», — адказаў. «Ці ведаеце простую мову?» — «Няма такой мовы», — сказаў ён. Але, як гэта, спадар прафесар, там жа ўсе палякі папросту гавораць. Палякі карыстаюцца там простай мовай па сённяе, на гэтай мове гаварыла маці ксяндза Папялушкі. Так гучыць мова Вялікага Княства Літоўскага. Некаторыя, вярнуўшыся з універсітэтаў, забылі яе, але не я. Няма чаго саромецца, гэта сапраўды прыгожая мова. У народзе па сёння жыве страх, яшчэ даваенны. Каб тады зрабіць матуру, трэба было памяняць рэлігію, стаць палякам. Гэта таксама сляды каланізацыі ВКЛ — з аднаго боку польскай, з другога — расейскай. Мае бацькі не баяліся. Бацька — паляк татарскага роду — таксама карыстаўся простай мовай. Я нічога не саромеюся, таму што я не аднамоўная, я змешаная. Неадназначнасць — гэта багацце ВКЛ. Сакрат Яновіч гаварыў, што ў некаторых словах стаўлю кепскія акцэнты. Але яны не кепскія, іх папросту прывезлі з бежанства. Расейскі акцэнт заўсёды тут прысутнічаў. Стараюся яго пазбягаць, таму што акцэнт у простай мове амаль такі сам як у польскай, хаця крыху больш рухомы.Трэба заўважыць, што акцэнты ўвогуле ў мовах мяняюцца. Вымаўленне таксама трэба прыстасоўваць і паляпшаць.

**— Вы прачыталі тут сваю размову з Богам. Ці часта з Ім гаворыце?**

— Гэта зусім свежая справа. Я пачала пісаць нарысы ў форме допісаў, двухмоўных, крыху па-польску, крыху па-просту. Нічога асаблівага ў гэтым няма, шмат хто Яму піша. Але я хацела пагаварыць з Ім пра справы, якія ў дваццаць першым стагоддзі вельмі небяспечныя. Для прыкладу, нядаўна прачытала Макса Шэлера «Istota i formy sympatii». Ён там сказаў нешта вельмі для мяне кранальнае: «Людзі *гома капіталістыкус* нашмат горшыя, чым *гома саветыкус*, таму што не пакідаюць прасторы на дысідэнцтва». Капіталізм не пакідае месца на так званы сацыяльны дагавор. Гэта абазначае, што можна зрабіць нешта не так і не пакараюць нас за гэта, таму што памылкі дазволены. Так жа гаворыць Пэтэр Слотэрдайк, сцвярджаючы, што сённяшняя Еўропа гэта ўніжаныя імперыі, толькі ўніжаныя імперыі. Гэта страшна таму, што паварочвае ў бок фашызму, які ідзе са Злучаных Штатаў Амерыкі. Тады, думаю сабе, да каго з усім гэтым звярнуцца. Пісала ўжо да Лукашэнкі, Пуціна, Меркель, Андруховыча, касмічнай істоты жаночага полу і шмат каму яшчэ. Застаўся толькі Бог. Думаючы пра гісторыю, я дайшла да высновы, што Польшча была адзінай краінай, якая супрацьстаяла Гітлеру. Мяне не цікавіць, што гэта брала пачатак са шляхецкага гонару, які не дазваляў задаваца з гітлераўскім плебсам. Вельмі добры гонар — мой гонар. Толькі Польшча пайшла на безнадзейную барацьбу. Толькі Бог у змозе аб'ясніць праўду. Гэта свабода, гэта Польшча майго бацькі жыве ўва мне.

**— Вы — паэтэса, празаічка, драматург, эсэістка, казачніца, мастачка. Прызнаецеся да сваёй сірочай хваробы. Ці Ваша творчасць з'яўляецца лякарствам на гэту хваробу?**

— Не, я гэтага так не ўспрымаю. Я займаюся вальнадумствам, філасофстваннем і нічым больш. Апошнім часам закрываюць усе філасофскія факультэты, прыгнятаюць гуманістаў. Без філасофіі і гуманізму мы нелюдзі. Кант гаварыў — без стаўлення сабе асноўных пытанняў чалавек пераўтвараецца ў *брутум* — звярыну. З асноўнымі пытаннямі і філасофіяй ён *ліберум* — свабодны. Мне падабаецца *ліберум* паэзіі і філасофіі.

**— Teraz kiedy czuję, że się obsuwam w rozdziawioną ziemię o mocnych kamiennych zębach... (у: „Jeśli poezja jest bezsilna", Olsztyn 1998). Туды напраўляецеся, а адкуль прыбываеце?**

— Я, мабыць, падумала, што няшмат жыцця мне засталося, банальна падумала і банальна запісала. Прыбываю тут з мамінага жывата і з любові бацькоў. Добра, што з любові. А да гэтага не ведаю, кім я была, калі мяне не было.

**— Вашы вершы сумныя, але ёсць у іх надзея: «I idziesz, idziesz po tej drodze uznając ją, jakakolwiek jest / Albowiem i koniec świata ma swój dalszy ciąg» (У: „Jeśli poezja jest bezsilna", Olsztyn 1998).**

— І канец свету мае свой працяг у фізічных і хімічных працэсах, і гэта ўсё. Нічога тут больш не прыдумаю. Нехта знаёмы сказаў мне: «Як гэта добра, што няма пазамагільнага жыцця, прынамсі гэтых жудасных знаёмых больш не сустрэну». Я панічна баюся смерці. Кладуся спаць і думаю ці дажыву да раніцы. Ведаю, што Сакрат Яновіч не баяўся. Праўдападобна паміранне гэта вялікі боль. Усё пачынае балець. Я вымушана думаць і пісаць пра гэта. Калісь думала, што ніколі не памру. Гэта было яшчэ ў студэнцкія гады. Жахлівае ўражанне. Год не было мяне ў хаце. Мая чорнавалосая маці раптам збялела. Збялеў зусім і мой бацька. Вельмі мяне гэта кранула. Маці таксама баялася паміраць. Мы павінны пра гэта думаць, інакш не будзем цаніць адзінага, сапраўды адзінага людскога жыцця і будзем вырашаць канфлікты вайной. Так, я думала, што буду першай з тых, якія не памруць. Не хадзіла ні ў царкву, ні ў касцёл, была заўзятай атэісткай. Не ўдзельнічала ў пахавінах, не наведвала могільнікаў. Гэта паражальная дурнота, але моладасць такая.

**— Ці рэлігія дапамагае ў лячэнні гэтага страху?**

— Не, не дапамагае. Цяпер я не магу сцвярджаць, што я — стопрацэнтная атэістка па адной прычыне. Ізноў вярнуся да філасофаў. Яны сцвярджаюць, што празмернае даказванне Божай прысутнасці, альбо празмернае яе непрызнаванне пагражае запыненнем у догмах аднаго альбо другога боку. Калі не будзем памнажаць догмаў, тады адчуем гэта нешта. Гэта нешта неабавязкова будзе несмяротным. Яно ў нас ёсць, завецца душой, сумленнем, індывідуальнасцю і так далей. Усё гэта можа быць па гэтым баку. Я не веруючая, ні няверучая. Мне папросту цікавіць рэлігія як частка культуры. У праваслаўі захапляюся іконай і літургіяй, у пратэстантаў — размовай, у католікаў — старымі касцёламі. У маёй сям'і ёсць католікі, пратэстанты і праваслаўныя.

**— Jest też smaczny smak niezliczonych drzwi ku niskiej piwniczce („Szkło i chleb" у: „Jeśli poezja jest bezsilna", Olsztyn 1998).**

— Здаецца, я бачыла тады чорны, хатні хлеб. Безліч дзвярэй гэта яго лусты — шматлікія дзверы чорнага хлеба. Гэта думанне вобразам, якое захавалася ў мяне па сёння. Няма думкі без вобразу, ёсць толькі пустая думка, але такая не мае для мяне ніякага значэння.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**


Паром у Мельніку

# Каля Мельніка

Некалькі месяцаў таму ў некаторых нашых мясцовасцях паявіліся адмысловыя аб'екты, названыя Месцамі абслугі веласіпедыстаў (MOR — Miejsce obsługi rowerzystów). Гэта прыпынкі на размашыста задуманай велатрасе GreenVelo, якая памечана па знакавых месцах уздоўж усходняй граніцы Польшчы — ад Балтыкі да Карпат. Пасярэдзіне гэтай трасы рака Буг, цераз якую мела быць перакінута кладка ў Нямiраве, што на самым поўдні нашага Падляшскага ваяводства. Мела быць, але не атрымалася. Вось я так і задумаў адправіцца ў той бок, у бок Мельніка, бо ж Нямiраў у тамашняй гміне...

Злез я з поезда на прыпынку ў Сычах і падаўся на Святую Гару Грабарку, бо ж і туды, як у знакавае месца, вядзе тая траса. Была гадзіна дзявятая, на манастырскай тэрыторыі панавала цішыня, таму я не спыняўся там, толькі падаўся па памечанай адмысловымі знакамі трасе GreenVelo ў напрамку Мельніка. У мясцовасці Конскія Горы шлях з асфальтоўкі павярнуў на жвіроўку ў напрамку Машчонай-Каралеўскай...

Траса выйшла на ўсходні канец вёскі, на шашу, якая яшчэ калісь-калісь пралягла паміж гістарычнымі ваяводскімі цэнтрамі Рэчы Паспалітай — паміж Берасцем і Драгічынам. І вось у гэтым месцы, на ўсходнім канцы Машчонай-Каралеўскай, поўная нечаканасць: сто метраў асобнай веладарожкі з асфальтавым насцілам з аднаго боку шашы і столькі ж далей, але з другога боку. Тая веладарожка з двух адрэзкаў і завершана тамашнім MORам...

Што ж такое ў тым MORы? Гэта паветка на плане квадрата, гэта стол з дзвюма лавамі, гэта тры парэнчы для веласіпедаў, гэта стэнд з агульнай картай цэлай трасы GreenVelo ды тры ўмяшчальнікі на смецце; ну і брусчатка пад усім гэтым. Затое няма ніякуткай інфармацыі пра найбліжэйшыя месцы, вартыя зацікаўлення. Яна адсутная ва ўсіх MORах, у якіх мне ўдалося запыняцца. А такая інфармацыя, як мяркую, павінна быць соллю ўсяго гэтага краязнаўчага па ідэйнай задуме праекта...

Бо ж дзеля чаго траса не пайшла з Грабаркі непасрэдна ў Мельнік, толькі менавіта павярнула ў Машчоную-Каралеўскую? А гэта таму, што на ўзгорках за вёскай, з яе паўночнага боку, амаль паўтара дзясятка бетонных бункераў г.зв. Лініі Молатава. Гэтыя аб'екты дакладна апісаны ў адмысловым турбуклеце Мельніцкай гміны, але ніякусенькай інфармацыі няма на месцы. Толькі байкер, які едзе з боку Грабаркі не вязе з сабою мельніцкага турбуклета і можа падумаць, што траса GreenVelo вядзе ў Машчоную-Каралеўскую толькі дзеля таго, каб праехацца сто метраў па веладарожцы з аднаго боку шашы і сто метраў з другога боку. І пабачыць будыначак з шыльдай крамы насупраць MORа...

Па выглядзе той крамы не выпадала дадумвацца, што яна працуе, аднак падаўся я туды. Пацягнуў клямку, але дзверы былі закрыты. Аднак зараз пачуліся крокі ўсярэдзіне і дзверы адкрыла жанчына, якую б можна было апісаць як сярэднюю па ўсіх параметрах. Гэтак жа і тую краму, за выключэннем накідкі на цэны, якая здалася мне выдатнейшай за сярэднюю. Ад крамы адвёў мяне сабачка сваім вельмі змагарным галашэннем...

Далей траса павяла ў Аслова і Мельнік. На электроннай карце перад Мельнікам пазначаны побач шашы гістарычны парк „Трылогія", аднак нічога на тым месцы не было. Калісь перад Мельнікам быў прычал парома, але зараз і яго я не ўбачыў. На лавачцы перад адной з першых хат сядзеў пажылы мужчына і ад яго я даведаўся, што паром курсіруе, але ў зусім іншым месцы...

Падаўся я ў Гмінную ўправу. Асоба, да якой скіравала мяне прыёмная інфарматарка, не асмелілася адказваць на маё запытанне наконт згаданай раней кладкі ў Нямiраве і завяла да войта, Яўгена Віхоўскага. З кладкай атрымалася асечка, бо папярэдні войт Адам Табота не справіўся тэрмінова з задачамі ў рамках праекта GreenVelo і ў выніку гміна панесла ўрон вартасцю ў 460 тысяч злотаў. Магчыма, што ў нейкай будучыні паявіцца зноў шанс на пабудову там кладкі.

Наконт парку „Трылогія", які меў быць галоўным лозунгам менавіта былога войта Адама Таботы, тое ж самае — праект не быў даведзены да завяршэння ў тэрміне і праваліўся. Цяпер у месцы, дзе ён меў паўстаць — Dzikie Pola... Дарэчы, у часе выбарчай кампаніі Адам Табота абяцаў многа, м.інш. дамашнія візіты лекараў і медсясцёр у хворых, на што не дазваляе закон. Гэтыя правалы папярэдняга войта і прывялі да таго, што людзі зноў звярнуліся да спадара Віхоўскага, які быў войтам да часу летуценных абяцанняў Адама Таботы. Да таго ж усяго Адам Табота раскалоў грамадства гміны па нацыянальна-канфесійнай лініі. А ў Мельніцкай гміне больш-менш па палове католікаў і праваслаўных. Цяпер спадар Віхоўскі намагаецца засыпаць гэтыя акопы, але гэта складаная справа. Напрыклад, надаўна, у час аднаго з мерапрыемстваў была заяўлена прэтэнзія, што выконваюцца „рускія" песні. А ў сапраўднасці была выканана толькі адна „руская" песня з ліку васьмі; апошнія былі польскія...

Заміж задуманай праектам GreenVelo кладкі ў Нямiраве ёсць у гміне два паромы на Бугу. Адзін, у Нямiраве, зараз не працуе, бо ён у такім месцы, дзе не заўсёды дастатковы ўзровень вады.

Спадар Віхоўскі разам з войтам Канстантынаўскай гміны, што ў Люблінскім ваяводстве, вызначылі іншае месца, дзе вады больш, але каб перавесці туды нямiраўскі паром, патрэбная станоўчая рэкамендацыя гідратэхнічных спецыялістаў з Варшавы; гэтая справа ў ходзе разгляду. Паром жа ў самім Мельніку пераведзены ў месца, дзе даўным-даўно быў мост, які знішчылі шведы ў час „патопу". Карыстаючыся нагодай, жыхары Сямятыч выстараліся каралеўскую прывілею на пабудову моста ў Турне, і з таго часу Мельнік стаў траціць ранейшае значэнне. Яшчэ раз удалося збудаваць у Мельніку мост, але той быў знішчаны ў час Першай сусветнай вайны...


Каплічка на Прадмесці


Крыжы каля Радзілаўкі

Паром у Мельніку цяпер адпраўляецца з прыстані, што насупраць прысёлка Прадмесце. У месцы, дзе адыходзіць дарога да яго, не надта даўно ўзведзена праваслаўная каплічка, адмысловая тым, што накрытая тоўстым пластом саламянай страхі.

Паром пакуль возіць пасажыраў бясплатна, ім загадвае мельніцкая Гмінная ўправа. Абслугоўвае яго двух мужчын, якія, карыстаючыся адмысловымі рычагамі, перацягваюць яго ўручную па канаце ўпоперак Буга; гэта крыху нагадвае бурлакоў на Волзе са славутай карціны Ільі Рэпіна. Падарожжа ад берага да берага доўжыцца не больш дзесяці мінут. Паром можа забраць на борт дзве легкавушкі.

Так вось апынуўся я на другім беразе Буга, у Мазавецкім ваяводстве, у мясцовасці, якая называецца Забужжам. Адтуль недалёка ў Сэрпэлічы, дзе каталіцкі санктуарый. Перад санктуарыем інфармацыйны стэнд: „W najstarszych dokumentach miejscowość Serpelice była nazywana: Siepielicze — później Siepielice, nazwa pochodzi od wydarzenia historycznego związanego z najazdem Tatarów na tutejsze tereny w czasie żniw i dzielnej obrony chłopów przed hordami tatarskimi przy użyciu sierpów". А мне здаецца, што нават вядома, як тыя татарскія орды называліся: Жыта, Авёс, Проса, Грэчка, але гэта толькі маё меркаванне. Стэнд: „Historia parafii Serpelickiej nieodłącznie związana jest z Ziemią Mielnicką. (...) Leżąc na bezpośredniej drodze z Wilna do Krakowa i do Warszawy, a także posiadając przestronny zamek, Mielnik stał się miejscem politycznych zjazdów i sejmów litewskich, jak również etapem wypoczynku królów polskich. Zahamowanie rozwoju miasta nastąpiło już w drugiej połowie XVI wieku, gdy spłonął wtedy zamek wraz z całą kancelarią, zniszczeniu uległ także most na Bugu i nastąpił kryzys ekonomiczny, jaki powstał po załamaniu się handlu zbożem. Bezpośrednią przyczyną były wieloletnie działania wojenne XVII wieku. Najazd Rakoczego z Siedmiogrodu, jak również liczne przemarsze wojsk skonfederowanych przyniosły miastu dotkliwe straty. Resztę dopełniły towarzyszące wojnom zarazy. (...) W XVII wieku część mieszkańców Serpelic przynależała do starszej cerkwi Bogurodzicy, zaś katolicy do kościoła farnego p.w. Wszystkich Świętych. Około 1646 roku obie parafie prawosławne w Mielniku przystąpiły do unii brzeskiej".

Сам санктуарый быў узведзены ў 1946-1947 гг. і зараз вядзе шырокую душпастырскую дзейнасць. У маёй прысутнасці сталі туды з'язджацца дзясяткі аўтобусаў з моладдзю з цэлай Драгічынскай дыяцэзіі: ад Вышкава, Вэнграва, Сакалова, Сямятыч, Бельска, Гайнаўкі...

Вярнуўся я назад у Мельнік і цяпер падаўся ў бок чыгункі ў Сычах найпрасцейшай дарогай — цераз Радзілаўку. Зараз за Радзілаўкай прасторнае месца адпачынку для вандроўцаў, побач якога інфармацыйны стэнд і пра самую Радзілаўку, якая афіцыйна называецца Радзівілаўкай, і пра Грабарку. Палову гісторыі Радзілаўкі займае апісанне эпізоду з часу апошняй вайны. Менавіта адступаючыя там у 1944 годзе немцы пакінулі за сабою грузавік з некалькімі скрынкамі гарэлкі. Савецкія танкісты не змарнавалі нагоды. Немцы толькі гэтага і чакалі: неўзабаве вярнуліся і пабілі п'яных савецкіх ваякаў, а іх танкі падпалілі...

Як жа гэты эпізод іншы ад тых усіх аповесцей пра нязломных і ідэйных герояў, прапагандысцкіх міфаў, пісаных, як гэта здараецца называць — ku pokrzepieniu serc. І якія так ахвотна чытаюцца маладым хлапечым пакаленнем. У ляўкоўскай школьнай бібліятэцы была калісь аб'ёмістая кніга пад загалоўкам „Ніколі не забудзем" — пра подзвігі савецкіх байцоў; хлопцы аж гарэлі, каб яе прачытаць. Больш-менш падобнага гераічнага накірунку была і Сянкевічава „Трылогія", якую я ў дзесяцігадовым узросце палымяна чытаў пры газавай лямпе. Магчыма, што гэтак жа захапляўся гераічным яе зместам і Адам Табота. І не вырас з таго хлапечага захаплення, з тых летуценняў пра крэсавыя подзвігі. І ўзмахнуў крыламі як міфічны Ікар...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# КРЫЖ у падляшскім краявідзе

Краявід фармуюць геаграфічна-прыродныя фактары і дзейнасць чалавека. Пакуль людская актыўнасць абмяжоўвалася да задавальнення натуральных патрэб, побач прыроднага паўставала створанае чалавекам гарманічнае культурнае асяроддзе. Прыкладам такой гармоніі з'яўляецца краявід падляшскіх вёсак. Рэшткі традыцыйнай народнай культуры захаваліся да нашых дзён у планіроўцы сядзіб, у выглядзе забудаванняў, у малых архітэктурных формах — перш за ўсё ў прыдарожных крыжах і каплічках.

Амаль дзве тысячы гадоў крыж успрымаецца як засцярога ад нядобрага. Ад вытокаў хрысціянства крыж стаў жыватворным сімвалам збаўлення.

Прыдарожны крыж у канцы вёскі меў ахоўваць жыхароў ад хвароб, раптоўнай смерці, пажару, паводкі і ўсяляκіх іншых няшчасцяў, а таксама ўказваць правільны шлях і ўмацоўваць веру. Да сёння захавалася традыцыя, прынамсі ў Орлі і навакольных вёсках, што перад крыжом у канцы мясцовасці затрымоўваецца пахавальнае шэсце, якое суправаджае пакойніка ў яго апошняй вандроўцы на мясцовыя могілкі. Бацюшка адпраўляе кароткі малебен і шэсце рушае далей. У некаторых мясцовасцях крыжы, якія раней стаялі на акраіне, запар з новай забудовай апынуліся быццам унутры мясцовасці.

Крыжы ставілі на межах палёў, вёсак, прыходаў, у месцах цудаў, перад крыніцамі і дамамі. У 1990-х гадах налічыў я ў Арлянскай гміне каля двухсот вясковых і палявых крыжоў, усе іх сфатаграфаваў, распытаў пра іх у людзей, шмат якіх ужо няма, ды апісаў. Цягам дваццаці гадоў, калі я крыжы фіксаваў, некаторыя з іх счэзлі з краявіду, паявілася крыху новых. Стаўлялі крыжы падзячныя за прыхільнасць да малітвы, за вратаванне

Крыжы ў Малінніках, 1997 год

ад хвароб і іншых бед. Прыкладам гэтаму камeнны крыж у канцы Градалёў, пастаўлены ў час II сусветнай вайны, калі ў вёсцы вельмі часта паміралі малыя дзеці.

Стаўлялі ахвяравальныя крыжы ў разгул заразы ў людзей і дабытку; апошняя бяда пагражала голадам. Прыкладам гэтаму драўляны просты, васьміметровай вышыні, крыж з паловы XIX стагоддзя ў Орлі, у напрамку Рудут, пры старой кузні Міхала Шыманскага. Даўным-даўно, як расказаў мне яшчэ пры жыцці ўладальнік кузні, лютаваў мор дабытку. Устрывожаныя арлянскія гаспадары рашылі скласці ахвяру і на працягу адной ночы паставілі крыж, пад які закапалі вялікае льняное палатно. Той крыж быў ужо шмат разоў рамантаваны, змацоўваны кавальскімі шрубамі, і перакопваны. Сёння стаіць пахілены і напамінае пра колішнюю падзею.

У самой Орлі ёсць дзесяць крыжоў — праваслаўных і каталіцкіх — драўляных, цэментных, металічных, каменных і з тэраца (lastryko). Кожны крыж мае сваю гісторыю, сёння часта забытую, нават найбліжэйшымі.

Крыжы і каплічкі часта былі ачагамі рэлігійнага жыцця мясцовасці. Напрыклад, у Орлі на Вадохрышча хрэсны ход спыняўся ля крыжа над Арлянкай з боку Рудут. Раней быў там драўляны крыж ды і сама рака цякла іншым рэчышчам. У 1955 годзе жыхар Орлі Піліп Адзіевіч, пазнейшы шматгадовы царкоўны староста, паставіў салідны бетонны крыж у крыху іншым месцы. Гэта ён на месца ўрачыстасці прынасіў стол, на які клалі Евангелле, хлеб і соль. У час спеву выпускалі тады тры галубы. У 1970-х гадах, калі ў Орлі быў пракладзены водапровад, ваду сталі свяціць пры кране каля царквы. Пра даўнюю традыцыю таго месца ля ракі мала хто ўжо памятае і ўспамінае.

працяг ☞

http://bortnictva.by

Беларусы даўно прызвычаіліся, што мёд — гэта справа пчаляроў, якія апякуюцца пчоламі і ў сваю чаргу жывуць у вуллях. І мала хто памятае, што вулляў калісьці не было, а мёд здабывалі борнікі, якія бралі яго з борцяў, загадзя развешаных на дрэвах у лесе.

Аднак апошнім часам, невядома з якіх прычын, пачало развівацца, а дакладней, адраджацца бортніцтва — збіранне мёду ў лясных пчол. Цікава, што гэта адраджэнне зблошвага тычыцца тэрыторый, якія калісьці ўваходзілі ў Вялікае Княства Літоўскае. І вось ужо мы маем беларускі сайт, прысвечаны адроджанаму рамяству.

Сайт „Традыцыйнае бортніцтва", які месціцца па адрасе **http://www.bortnictva.by**, выглядае вельмі па-сучаснаму. Выяўленне галоўнай старонкі мае некалькі слаёў, якія перасоўваюцца камп'ютарнай мышкай. Старонка аздоблена мноствам фотаздымкаў, а таксама разнастайнымі лозунгамі кшталту расповедамі пра бортніцтва, як „спрадвечнае суіснаванне чалавека і прыроды". Выйсці на іншыя старонкі месціцца як унізе і ўверсе цэлага выяўлення, так і пасярэдзіне на адпаведных фотаздымках.

Першай у пераліку рубрык на галоўнай старонцы ідзе „Бортны сусвет". Пэўна, яна розніцца не на звычайнага карыстальніка, а на чалавека, які зацікавіўся бортніцтвам і займеў думкі, як займацца такой справай. З гэтай рубрыкі ён даведаецца пра тое, як шукаць дрэва для борці (калоды), як яе вырабляць, як глядзець і лячыць пчол. Таксама там змешчаны бортны каляндар, аздоблены малюнкамі-графікамі.

Галоўным дакументам, па якім павінны працаваць беларускія бортнікі, паводле ўладальнікаў сайта, з'яўляецца «Бортны статут» — першы і адзіны ў свеце, і распрацаваны на падставе норм права Вялікага Княства Літоўскага і традыцый звычаёвага права. Тэкст статута месціцца на адпаведнай старонцы і змяшчае дзесяць артыкулаў, пяць з якіх — пераказ адпаведных частак Статута ВКЛ. „«Бортны статут» мае намерам акрэсліць падыходы да развіцця бортнага промыслу, усталяваць абавязкі і правы бортнікаў у цяперашні час. Да таго ж Статут носіць рэкамендаваны характар і адкрыты да ўдакладненняў. Статут мае намерам перанос найлепшых практык, звычаёвага права старажытнасці, унясення закангадаўчага характару Трэцяга Статута Вялікага Княства Літоўскага і адаптацыю да сённяшніх умоў існавання чалавека і прыроды. Асноўная мэта «Бортнага статута» — рэгуляванне грамадскіх, прыродна-грамадскіх адносін падчас выкарыстання бортных практык", — гаворыцца ў дакуменце.

Рубрыка „Бортныя хронікі" — своеасаблівая стужка паведамленняў аб сучаснай бортніцкай справе. „Бортныя хронікі гэта летапіс новага часу, гэта вялікае падарожжа ў нетры мінулых стагоддзяў і ў густэчу пушчаў і балот", — сцвярджаецца ў анонсе рубрыкі. Цікава, што яна змяшчае не толькі тэкставыя расповеды пра бортніцтва, але і відэаматэрыялы, абагульненыя назвай „Першы бортны канал". Праўда, усе відэа і тэксты датуюцца найпазней маем бягучага года.

Сярод іншых рубрык сайта адной з найбольш цікавых падаецца „Бортны слоўнік". Там тлумачацца словы і выразы, без якіх немагчыма ўявіць данае рамяство. Паводле ўладальнікаў сайта, тыя словы амаль без змен дайшлі да нас з глыбіні вякоў.

❖ Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

Дата з Календара

## Чверць стагоддзя новай дзяржаўнасці

# 25 гадоў з дня абвяшчэння

## Рэспублікі Беларусь і вяртання нацыянальнай сімволікі

19 верасня 1991 г. Вярхоўны Савет Беларусі 12-га склікання прыняў пастанову аб змене назвы Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі на Рэспубліку Беларусь. Дзяржаўным гербам была зацверджана „Пагоня", дзяржаўным сцягам — бел-чырвона-белы сцяг. У гісторыі беларусаў пачаўся новы адлік часу.

Раней бел-чырвона-белы сцяг і герб „Пагоня" былі сімваламі Беларускай Народнай Рэспублікі — першага дзяржаўнага ўтварэння, што абвясціла сваю незалежнасць ад іншых краін і выкарыстоўвала азначэнне „беларускі".

Герб „Пагоня" — вяр з узнятым мячом на белым кані ў чырвоным полі — вядомы ў Беларусі з глыбокай старажытнасці. Як дзяржаўны герб Вялікага Княства Літоўскага, старажытнай беларускай дзяржавы, яе пачаў выкарыстоўваць вялікі князь Віцень у канцы XIII ст. Вывяй „Пагоні" ўпрыгожвання ўсе дзяржаўныя дакументы тагачаснай Беларусі, старонкі „Літоўскай Метрыкі" і „Статутаў". „Пагоня" была на сцягах беларуска-літоўскага войска ва ўсіх вырашальных бітвах тых часоў — ад Грунвальда да Оршы. Пасля Люблінскай уніі „Пагоня" нароўні з польскім белым арлом змяшчалася на гербе Рэчы Паспалітай і на каралеўскім сцягу. Нават пасля падзелаў Рэчы Паспалітай у XVIII ст., калі Беларусь трапіла пад уладу Расіі, „Пагоня" засталася гербам беларускіх губерняў.

Бел-чырвона-белы сцягу сённяшнім выглядзе, у адрозненне ад „Пагоні", мае канкрэтнага аўтара. Сцяг стварыў у 1917 г. беларускі дзеяч Клаўдзій Дуж-Душэўскі. Створаны Дуж-Душэўскім сцяг быў упершыню ўзняты ўвесну 1917 г. на будынку Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны ў Пецярбургу. Бел-чырвона-белую стужку ў 1917 г. сталі насіць і вайскоўцы-беларусы на франтах Першай сусветнай вайны, каб пазнаваць сваіх. У снежні 1917 г. у Мінску ў час Усебеларускага з'езда бел-чырвона-белы сцяг ужо аднадушна прызнаваўся нацыянальным сімвалам Беларусі. Ён стаў дзяржаўным сцягам Беларускай Народнай Рэспублікі. За саветамі ж сцяг быў забаронены.

Да ўсталявання новай, але гістарычнай, дзяржаўнай сімволікі ў 1991 г. спрычыніліся не толькі дэпутаты Вярхоўнага Савета 12-га склікання, які быў абраны на часткова свабодных выбарах, але шмат іншых людзей з беларускіх колаў. Вось як гэта адбывалася.

4 кастрычніка 1991 г. была сфармавана адмысловая Камісія пры Прэзідыуме Вярхоўнага Савета для распрацоўкі і сцвярджэння дзяржаўнай сімволікі, атрыбутыкі і адпаведных дакументаў да іх. У яе ўваходзіла больш за дваццаць чалавек: вядомыя гісторыкі, мастакі, дызайнеры, мастацтвазнаўцы. Узначаліў Камісію дэпутат Вярхоўнага Савета Алег Трусаў. У мастацкую групу ўвайшлі Яўген Кулік, Мікола Купава, Лявон Бартлаў, Леў Талбузін і Уладзімір Крукоўскі. Праца працягвалася амаль тры месяцы. У працы над эталонамі маторам усёй акцыі паводле сведчанняў калегаў быў мастак Яўген Кулік. Над гербам найбольш давялося працаваць Куліку і Крукоўскаму. Талбузін займаўся навершам сцяга, а потым, калі былі гатовы графічны і каляровы эталоны, пачаў ляпіць рэльеф (аб'ёмны эталон). Купава рабіў узоры дзяржаўных пячатак, Крукоўскаму давялося яшчэ зрабіць новы нагрудны знак дэпутата.

Нацыянальная сімволіка заставалася дзяржаўнай да ганебнага рэферэндуму 1995 года, у выніку якога дзяржаўная ўлада вярнула ў краіну каланіяльныя савецкія сімвалы.

❖ Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

Іншы прыклад — асвячэнне палёў перад Ушэсцем. Хрэсны ход ішоў тады па дарогах, якія раздзялялі палі суседніх вёсак, а ўдзельнікі шэсця маліліся перад дарожнымі крыжамі і пры палетках паасобных гаспадароў. Пасля заходзілі ў вёску, дзе кожны гаспадар стаўляў у браме стол, на які клаў бохан хлеба. Бацюшка маліўся пры стале, а пасля свяціў сядзібу. Гэты старадаўні звычай захаваўся ў Парцаве, што каля Бельска-Падляшскага. Цяпер гэты абрад страціў рацыю быту, бо сяляне пазбыліся сваёй зямлі ў карысць абшарнікаў і ў вёсках асталося вельмі мала гаспадароў. Іншая справа — у вёсках асталіся пажылыя людзі, якім не пад сілу вынесці з хаты нават стол, а калі хто вынесе крэсла, то бацюшка не надта хоча тады маліцца.

Запар з наступам матарызацыі пры дарогах паявіўся новы від крыжоў, якіх лік усё расце. На дарогах здараюцца смяротныя выпадкі. На месцы трагедый людзі спантанна стаўляюць крыжы, не пытаючы дазволу. Павятовая ўправа дарог на гэта не рэагуе, але і не супрацьўляецца, калі сем'і загінулых стаўляюць і даглядаюць крыжы. Яны з'яўляюцца свайго роду напамінам, асцярогай вадзіцелям ды ўшанаваннем памяці пакойнікаў, ахвяр транспартных трагедый.

З канцом XIX і пачаткам XX стагоддзя паявіліся высокія драўляныя крыжы з „пярэхрысцем” і з завершанымі „булаўкамі” канцамі. Крыжы рабілі з сасны, дубу. Не бралі для гэтага асіны, бо паводле падання на асіне павесіўся Іуда. Цяпер замяняюць іх крыжы — пачаткова з бетону, пазней з тэраца, а цяпер са шліфаванага каменю. Змянілася таксама іх упрыгожванне: не відаць ужо гірляндаў кветак і вянкоў з галінак, толькі штучныя кветкі і стужкі. Цешыць, аднак, што традыцыя ўпрыгожвання прыдарожных крыжоў яшчэ жыве ў народзе. Шмат гадоў крыжам у канцы Орлі з боку могілак апякуюся і ўпрыгожваю я сам. Гэты крыж, з бетону і тэраца, паставіла ў 1958 годзе мая бабуля Фядора Назарэвіч.

Кожны крыж — жывы доказ людскога лёсу, знак смутку і надзеі, вяшчун радасці, напамін нашчадкам. Трэба ўсведамляць, што крыж — сведка тых, што ўжо адышлі, тых, якія дбалі пра сваю бацькаўшчыну. Трэба тады імкнуцца, каб прыдарожныя крыжы як найдаўжэй захаваліся ў краявідзе нашай малой айчыны.

Тэкст і фота Міхала МІНЦЭВІЧА

## Дэмаграфія Шудзялаўскай гміны

У 2016 годзе ў Шудзялаўскай гміне Сакольскага павета пражывае 3 108 чалавек. У ёй 42 мясцовасці і 34 салэцтвы. Яе абшар у 302 квадратныя кіламетры. Шчыльнасць насельніцтва 10 чалавек на 1 квадратны кіламетр. Тут на 100 жанчын прыпадае 100 мужчын. Па-суседску з Шудзялаўскай гмінай знаходзяцца Сакольская і Супрасльская гміны ды дзяржаўная мяжа з Беларуссю. Больш палавіны Шудзялаўскай гміны займаюць лясы.

У 2004 годзе ў Шудзялаўскай гміне пражывала 3 517 асоб, у тым ліку 1 716 жанчын і 1801 мужчына (як бачым мужчын было больш), у 2012 годзе — 3 217 чалавек і ў 2014 годзе — 3 099. У 2015 годзе памерлі 72 асобы. Колькі нарадзілася дзяцей, у шудзялаўскім ЗАГСе не змаглі палічыць. А сёлета 50-годдзе шлюбнага сужыцця святкавалі ўсяго тры пары. Яны ў ненайлепшым здароўі і медалі ад прэзідэнта РП вазілі ім дадому.

А вось найбольшыя вёскі ў Шудзялаўскай гміне: Шудзялава (698 чалавек), Вярхлессе (326), Мінкоўцы (161), Войнаўцы (124), Паўночны Востраў (121), Гарчакі (100), Сухінічы (99), Бабікі (98), Слоя (83), Кнышэвічы (81), Астравок (79), Мішкенікі- Вялікія (77), Шчасновічы (76), Талькоўшчына і Уснар-Вялікі (па 72) ды Новае Трасцяно (70).

Малыя паселішчы гэта Сухі Груд — тут жыве толькі адна асоба (!), Равок — 2, Белы Луг — 4, Маркавы Выган — 9, Падлазіска — 10, Бярозавы Груд — 14 і Ліпавы Мост — 15 асоб.

Прыгранічная Шудзялаўская гміна малалюдная. Яна на дэмаграфічным мінусе. Моладзі тут няшмат. Вёскі старэюць і з кожным годам становяцца штораз больш бязлюднымі.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ




# 25.09 — 01.10

**(22.03. — 20.04.)** Добра раскладзі сілы, таму што магчымыя ўскладненні, таксама са здароўем. Будзь больш цярплівым. 27.09. адчуеш цяжар адказнасці. Свежазакаханыя могуць перажыць хвіліны сумненняў. У сужонствах са стажам — застой. Дома трымайся фактаў. На працы пільнуй дэталяў. У бізнесе — рух, заказы, званкі. Добра сядзі, сачы за сваім пазваночнікам, масажуйся мятным алеем.

**(21.04. — 21.05.)** 24-28.09. прыйдзе ў галаву задума, якая падштурхне тваю кар'еру. Будзе шанц шчасліва закахацца. У пары блізкасць і гармонія, цярплівасць і разуменне партнёра. 24-28.09. радасная ўрачыстасць у сям'і. На працы з 27.09. дачакаешся заслужанага павышэння. Вельмі пільнуйся на дарозе і пры электрапрыборах, асабліва калі ты стомлены, нявыспаны ці хворы.

**(22.05. — 22.06.)** 24-28.09. здабудзеш новыя ўмеласці. Людзі спрыяюць табе. Будзеш змабілізаваны на працы, аднак паявіцца шмат сюрпрызаў, на якія трэба будзе хутка рэагаваць. Калі ты нарадзіўся ў першай дэкадзе знака, знаёмства наладжанае цяпер толькі здасца быць пералётным фліртам — можаце аказацца быць сабе так даспадобы, што не зможаце жыць адзін без аднаго. Сярод сяброў і радні зважай на словы. Не ўваходзь у няпэўныя інтарэсы. Цікавыя задумы на занятак і развой кар'еры, некаторыя здадуцца быць рызыкоўнымі, але хто не рызыкуе — не п'е шампанскага. Для штатных працаўнікоў — пераломны перыяд.

**(23.06. — 23.07.)** 27.09. не трац часу і грошай на глупствы. Вазьмі справы ў свае рукі. Чакае цябе выпрабаванне ў пачуццях. Шыкуецца хвалюючая сустрэча пасля доўгіх гадоў. У прафесіі ты на хвалі. Усе прызнаюць, што належыць табе павышэнне. Не насцярожвайся да новай асобы ў фірме, неўзабаве стане яна тваім саюзнікам. У інтарэсах горш да 27.09. Калі хочаш атрымаць тое, што табе належыць па заслугах, скажы пра гэта гучна.

**(24.07. — 23.08.)** Да 28.09. шчасце ў фінансах і пачуццях. Здзейсніш свае планы і знойдзеш выхад з нялёгкай сітуацыі. Маеш шанц на каханне! Будуць сустрэчы, падарожжы, выйгрышы. Шэф палічыць, што ты марнаваўся ў фірме і дасць табе чарговыя, больш амбітныя заданні. Калі адчуваеш сябе горш, зрабі аналізы крыві. Можа, хопіць змяніць дыету ці адмовіцца ад шкодных табе прадуктаў.

**(24.08. — 23.09.)** Да 28.09. не дай сябе спакусіць пустымі абяцаннямі. Фартуна шырока да цябе ўсміхаецца, пакарыстайся фартам і забяспеч сябе на будучыню. Сустракайся. Не ўлезь у раман з нейкім віпам, бо наробіш сабе шкоды. На здароўе не будзеш наракаць, але прымяняй прафілактыку — рыбін тлушч, вітаміны, цёплыя штаны... Шпацыруй, схадзі ў трэнажорную, папрактыкуйся на двары.

**(24.09. — 23.10.)** Да 27.09. вернецца табе вера ў людзей. Асабліва не перанапружвайся, адпачывай. У пачуццях і ў сувязях ёсць надзея на ўсмешку лёсу. Не сядзі дома — не ведаеш дня ні гадзіны... Сярод радні і сяброў пастаў на дыпламатыю. На працы часцей выказвайся, варта выйсці наперад. Шукаючы працу, услухайся.

**(24.10. — 22.11.)** Да 28.09. пераможаш канкурэнцыю і ўсе праблемы. Не бойся перашкод — яны рушаць твае справы наперад. Самотны Скарпіён — не даганяй трусіка, які гэтага не хоча. Новы занятак можаш знайсці 24-28.09. Можа, трэба будзе перакваліфікавацца, але не з такімі праблемамі ты спраўляўся. У судзе можаш здабыць спадчыну ці кампенсацыю, выйграць справу. Еж стравы з магніем (рыбы, авакада, сачавіца, соя).

**(23.11. — 22.12.)** Твой жыццяпіс (CV) не трапіць у сметніцу! Не пашкадуеш высілку ўкладзенага ў выконванне загадаў шэфа і павышэнне кваліфікацый. Асобы, якія да гэтай пары не заснавалі свайго бізнесу, будуць шкадаваць, што не зрабілі гэтага раней. Зараблянне грошай акажацца не такім цяжкім!

**(23.12. — 20.01.)** 27.09. атрымаеш ад зорак прыліў адвагі і энергіі да дзеяння. Праблему, якая цябе турбуе, развяжаш да 28.09. Хапай прафесійныя шанцы. Перанясі летні адпачынак у сваю хату, распешчвай сябе і сваю палавінку. Не папракай знаёмых, што не ўсё ведаюць ці мала чытаюць — прыгадай тое, за што іх любіш. На новую працу не маеш цяпер асаблівых шанцаў. Пакуль тужэй зашпілі рэмень, не купляй непатрэбшчыны.

**(21.01. — 19.02.)** Апынешся ў цэнтры шчаслівых падзей. Карыстайся шанцамі, але застанься самім сабой. Схочаш зрабіць карэктуру цяперашняга курсу, галоўным чынам у прафесійных справах. Утрымаешся на хвалі, пераможаш праціўнікаў. Змяні стыль — памаладзееш, папрыгажэеш.

**(20.02. — 21.03.)** Не хавайся за іншых, варта выйсці з ценю. Добрыя кантакты і спрыянне. Але тэма грошай можа паспрачаць цябе з сябрамі — хтосьці будзе зайздросны, што табе ўсё ўдаецца лепш, намякне, што ты не заўсёды сумленны. Найлепш адразу ўсталяваць, што кожны плаціць за сябе! 24-28.09. — ідэальны момант на рэалізацыю амбітных задум. Калі яго праваронііш, наступныя месяцы або і гады будзеш выконваць нудную працу, якая не прыносіць задавальнення! Убачыш новыя магчымасці!

Агата АРЛЯНСКАЯ

## Адгаданка Адгаданка Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. стараславянскі народны сход = 20 _ 21 _ 22 _ 19 _;
2. жонка Адама = 10 _ 9 _ 8 _;
3. цэнтр нафтаперапрацоўчай прамысловасці на Прыпяці = 18 _ 13 _ 16 _ 23 _ 1 _;
4. алімпійскі горад над Чорным морам = 3 _ 2 _ 11 _ 12 _;
5. левы прыток Дзвіны ў... булаве = 17 _ 7 _ 6 _;
6. нячысцік = 5 _ 15 _ 14 _ 4 _.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 | 4 |
| 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| | | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| | | | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 36 нумара**

Лучына, Яжоў, сплаў, хакей, вол, Іўе, Ван, Гоа, грыбнік, пчала, верас, гразь, манета.

Рашэнне: **Чужое хвалі, а свайго ў гразь не тапчы**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Яну Міхалюку** з Чыжоў.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірослава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 000 egz.

# У палескай глыбінцы (55)

Учатыры гадзіны раніцы раздаўся ахрыплы віск. Здавалася, нехта тупым нажом разрэзаў начную цемру. Шурпаты гук цягнуўся нейкія тры хвіліны, аж абарваўся балючым спазмам. Якраз наблізіўся той першы этап канца ночы, пра які ў народзе кажуць: ужо першыя куры заспявалі. Я знаходзілася ў чарнобыльскай зоне ды адразу падумала пра пеўня-мутанта, якому прыпала роля абвясціць новы дзень і паступова абуджаць народ. Пры першых пеўнях, — як баюць палескія казкі, — хаваюцца зьлыдні, гулякі ўжо вяртаюцца з начной забавы, а прыстойны народ смачна храпе, каб абудзіцца праз дзве гадзіны, пры трэціх пеўнях...

Я таксама абярнулася на другі бок і зацягнула на галаву прасціну. Гэта быў ратунак перад мошкай, якая, звабленая свежай крывёй, зляцелася праз прыадкрытае акно і джаліла, дзе папала, выклікаючы пякельны сверб і настрой канца свету. Здавалася, гэтая непрыкметная для вока пошасць выпаўняе кожны вольны міліметр паветра. Тутэмцы ведаюць як пазбыцца машкары, дзеля гэтага хопіць запаліць сохлую чагу і абкурыць хату горка-ядавітым дымам. Я была гатова засмуродзіць свой прыгожы апартамент губкай, каб толькі пазбегчы крывавжэрнай кампаніі, пры якой камары-крывасмокі здаваліся сімпатычнымі зюмкачамі. Віна аднак ляжала па маім баку і я не вінавацілa палескай прыроды. Вечарам, каб праветрыць пакой, я несвядома прыадкрыла шчыльна забітае акно і лягла спаць. За мной было трынаццаць гадзін язды набітымі і душнымі аўтобусамі. Кожнае месца для сну здавалася камфортным. У гэты раз я абрала на сваю адпраўную базу задбаны гатэль у Любашове. Месца вабіла незвычайнай славай і нізкай цаной. Пакой з душам і тэлевізарам за ноч каштаваў толькі 8 долараў. У ім начавалі спартсмены-лёгкаатлеты з цэлай Украіны, якія з'язджаліся сюды на трэнінгі, матчы і спаборніцтвы. Праўда, у час маёй пабыўкі я не пабачыла спартсменаў, але гэта яшчэ не адбірала славы апартаментам...



Раскіданы калгас у Любязі

Пранізлівы віск паўтарыўся тры разы на світанні. Хоць гэты час належаў „другім пеўням", за акном чуўся выразны свінскі крык. Трывожны гук гучнеў і суцішаўся, яшчэ была магчымасць здрамнуцца. Праўдзівы набат пачаўся пасля шостай раніцы. Віск даходзіў ужо з кожнага завулка, з адлеглых панадворкаў і блізкага суседства.

У Любашове, калішнім культурным цэнтры Рэчы Паспалітай, пры заядлай брахні дварнякоў, здзяйсняўся масавы свінабой. У суботу раніцай кожны спяшаўся закалоць вепрука, каб паспець перад „нашэсцем".

* * *

Тэма афрыканскай чумы свіней здамінавала пачуцці і размовы жыхароў раёна. Яна жыва хвалявала земляробаў, настаўнікаў, прадаўцоў, пенсіянераў, бракаьнераў, беспрацоўных, журналістаў. Апошнія хваляваліся не толькі з-за публікацый. У час, калі я наведала любашоўскую рэдакцыю „Новага жыцця" (укр. „Нове життя"), адзін з журналістаў, тактоўны мужчына з інтэлігентным воблікам, на развітанне падзяліўся планамі на ўік-энд:

— Ну ўсё! Пабег дамоў кабанчыка прыкончыць!

Масавы свінабой у Любашоўскім раёне, пік якога прыпаў у апошні дзень спасаўскага посту, 27 жніўня 2016 г., здзяйсняўся за справай панікі. Людзі баяліся не чумы, а чыноўнікаў у выглядзе камісіі. Карацей кажучы, кожны стараўся забіць вепрука да візіту ветэрынарнай камісіі, якая з нядзелі мела хадзіць па дварах, спісваць і забіраць да ліквідацыі хворых свіней. Ніхто не верыў у кампенсацыю за матэрыяльныя патраты. На рынку ў суботу, дзе ўжо абвязвала забарона гандлю мясам, яшчэ больш брутальна каментавалі справу кампенсацыі:

— Дадуць! Дагоняць і яшчэ раз дадуць!

На самой справе кампенсацыя не рашала праблемы. Кошт мяса ў магазіне палохаў, за цэлую месячную зарплату настаўнік ці пенсіянер можа купіць дзесяць-дванаццаць кілаграмаў вяндліны. Каб прыдбаць мяса для сям'і, многія жыхары Любашова самі гадуюць свіней, кароў, курэй, коз, трусоў, гусей, качак, індыкоў. Многія завулкі з хлявамі і жывёлай на панадворках напаміналі вёску з натуральнай гаспадаркай.

Людзі з блёкаў таксама не апускалі рук. Яны даручылі гадоўлю свіней бацькам або сваякам у сяле. Цягам тыдня, калі я аўтобусамі ездзіла па навакольных сёлах, сустрэла многіх гараджан, якія спяшалі на вёску дапамагчы капаць бульбу. У зваротнай дарозе яны валаклі мяшкі бульбы, якія шафёр са зразумелым грузіў у багажнік і не жадаў дадатковай аплаты.

Хоць на Палессі бульбу называюць другім хлебам, сёлетні ўраджай не надта цешыў. З-за масавай ліквідацыі свіней раптоўна ўпала цана на бульбу. У суботу на рынку за кілаграм плацілі 8-10 цэнтаў.

— Адзін смех, а не заробак! — наракалі сяляне, якія прадавалі бульбу мяшкамі, — нават кошт прадукцыі не вернецца.

* * *

— А што гэта такое дзеецца? — спытала я маладога любашоўца.

Мужык вяртаўся з магазіна, ужо падхмелены і шчаслівы. Гадзіннік паказваў палову восьмай раніцы і яшчэ панаваў прыемны халадок. Якраз, дзвесце метраў далей, на панадворку абсаджаным вінаградам, жудасна загалася свінчо.

— Не ведаю... — сцішаным голасам адказаў тубылец, — кажуць, нашэсце ідзе.

Мы знаходзіліся некалькі крокаў ад самага старога архітэктурнага помніка ў раёне, дакладна ля барочнай брамы, якая калісь вяла ў палац Чарнецкіх. Гістарычнае слоўца „нашэсце", то-бок пагроза з боку іншапляменцаў, амаль фізічна прыставала да месца. Я спытала яшчэ пра апусцелую буслянку, што красавалася на сухім дубе, ля гістарычнай брамы. Ці многа тут было буслянат, ці ўсе адляцелі ў Афрыку?

Пачуты адказ толькі дапоўніў чорнае прароцтва:

— У гэты год не прыляцеў да нас *бусько*, — яшчэ цішэй прамовіў мужчына, — відаць, бяда будзе.

Таксама ад задымленых панадворкаў даносіўся чорны гумар. Мужчынская кампанія з трох чалавек, што ўвіхалася ля заколатага вепрука, зухавата дапытвалася ў суседкі з-за плота:

— Ці твая Дуся чула крык нашага кабана? — спытаў мужык з далонямі запэцканымі крывёй па локці. — Як яна маецца, не злякалася?

Мяснік якраз дабыў з разрэзанага свінскага жывата цёплыя кішкі. У паветры пахла смаленай шчэцціо і шкурай. У бяспечнай адлегласці два каты чакалі аж кінуць у іх бок кусочак яшчэ цёплай свяжынкі. Суседская свіння, Дуся, пра якую пытаў падбадзёраны разнік, праз гадзіну таксама пойдзе пад нож:

— А яна лягла і не думае, — адказала суседка з-за плота, — сёння, замест корму, я наліла ёй піва ў карыта.

* * *

Нягледзячы на пранізлівы квік і на масавы свінабой у раёне, прэса не прыкмячала пагрозы ад афрыканскай чумы свіней. У суботнім нумары „Новага жыцця" амаль уся ўвага была адведзена Святу незалежнасці Украіны. Цэнтральны загаловак, прыаздоблены партрэтам Тараса Шаўчэнкі, гучаў патрыятычна і пафасна: „Дакуль свеціць нам пуцяводная зорка, шануйма родную зямлю — Украіну!". Тэкст састаўлялі квяцістыя віншаванні палітыкаў і чыноўнікаў. Праблеме падзення свіней быў адведзены адзін допіс, які суцішаў настрой і тлумачыў неабходнасць кантакту з ветэрынарам. Паводле раённай лякарні ветмедыцыны, зафіксавана за сорак інтэрвенцый. У абласную ветэрынарную лабараторыю былі высланы паталагічныя матэрыялы ад дохлых і дабітых свіней з пяці населеных пунктаў. Доследы не пацвердзілі наяўнасці афрыканскай чумы свіней — інфармавала газета.

Далей прамаўляў галоўны лекар ветмедыцыны Пятро Корх:

„Трэба адзначыць, што апошнімі гадамі, у сувязі з неспецыфічнай для нашай тэрыторыі тэмпературай, то-бок нечаканай спёкай улетку, мы прыкмецілі пабольшаны лік выпадкаў захворванняў свіней на воспу, бешыху, пастэрэльёз ды іншыя хваробы. Гэтаму спрыяюць таксама нездавальняючыя санітарныя ўмовы, адсутнасць дэратызацыі (знішчэння грызуноў) і дэзынсекцыі, а таксама нізкая свядомасць грамадзян, якія вывозяць дохлых кабаноў у лес, кідаюць ля дарог, топяць у вадаёмах"...

Лекар раіць як найхутчэй зрабіць прывіўку ўсім маладым свінчукам (на кошт гаспадара), бо гэта адзіная гарантыя на здаровую гадоўлю і прыбытак у гаспадарцы.

А што рабіць з хворымі, дарослымі вепрукамі?

Пра гэта ў „Новым жыцці" ўжо не напісалі.

* * *

Але народ добра ведаў што рабіць. Усе распаўсюджвалі навіну пра прыдатнасць да спажывання мяса з хворых свіней.

— А што мне чума? Перажару, пакладу ў банку і буду сабе есці — заявіў дзед Міхайла. Стары прысеўся да мяне ў аўтобусе па трасе Невір — Любашоў. Гасцяваў у дачкі. Пакуль залез ён у аўтобус, расцалаваўся з дзяўчатамі, якія акружылі яго вясёлым вянком на прыпынку.

— Дапільнуйце, каб бацька сяла не пераехаў, — папрасіла ў шафёра дачка.

Дзед Міхайла быў пад мухай і гаварыў як наняты на сваім архаічным дыялекце. Лічыў, што афрыканскую чуму прыдумалі „бандэры і дэмакраты", то-бок сучасны ўрад з прэзідэнтам Парашэнкам на чале.

— Ім тая чума патрэбная, каб ваяваць з *рускім*, — пачаў дзед. — Набяруць паўдарма ў гаспадара свіней, бо ж трэба мяса на фронт...

Стары не паспеў выкласці ўсіх змоўніцкіх тэорый, калі аўтобус якраз затармазіў ля яго драўлянай хаты з выявай сонца на шчыце...

— Ну, дзед! Канчай свае рамамы! — пажартаваў шафёр.

Пра сувязь эпідэміі і палітыкі заўзята спрачаліся ля магазіна ў сяле Грэчнікі.

— Прадалі за капейкі нашу Украіну! — паўтарала агрэсіўная цётка з дзікаватым позіркам. Жанчына што і раз адбівалася ад кампаніі, каб праверыць, што дзеецца ў сяле. Яна даходзіла да канца вуліцы і вярталася пад магазін. Афрыканскую чуму свіней лічыла божым пакараннем за брудную палітыку. Восьу іх сяле шмат людзей прагаласавала за Януковіча. Адтуль няшчасці, вайна...

— За гэта ім паабяцалі 200 грывень, — дадала.

— То ж твае сваякі агітавалі за Януковічам, — прыгадаў ёй аднавясковец, — ды замест тых 200 грывень дулю пад нос сунулі.

У палескай глыбінцы як нідзе ўспрымаюць балюча дакор у адрас сям'і. Выбітая са сваёй „праўды" жанчына рушыла з месца і, нешта бармочучы, пашыбавала ў канец вуліцы...

У Грэчніках шмат несвядомых пагрозы сялян не паспела закалоць сваіх вепрукоў. Дохлых кабаноў закопвалі са слязамі і з пачуццём крыўды да ўлады. Каб хто раней падказаў, параіў! А так бяда, прыйдзецца зімаваць без мяса.

— А ў Ровенскай вобласці ўжо кароў рэжуць! — дакінула падшытая дзікім ветрам цётка, што дайшла да канца вуліцы і вярнулася назад.

Апошнюю вестку кампанія прыняла з пакорлівасцю, без каментарыя, сумна ківаючы галовамі. А прадаўшчыца, найбольш рацыянальная асоба ў грамадзе, прадоўжыла пачутую навіну:

— То ж у Біблії сказана, што канец свету прадкажуць няшчасці. Ужо ў нас дохлі куры і гусі, цяпер дохнуць свінні, а ў канцы прыйдзе чарга на кароў.

* * *

У аўторак, тры дні ад свінабойнай суботы, усе дарогі ў Любашоўскім раёне былі пад кантролем медветэрынараў. Службы правяралі машыны і аўтобусы ў пошуках мяса. Пра эпідэмію гаварылі радыё і тэлебачанне. У распаўсюдзе афрыканскай чумы свіней вінавацілі хворых дзікоў, якія прыйшлі ў Любашоўскі раён з суседняй Беларусі.

Дзень пазней я пабывала ў Ровенскай вобласці. Там, дзе паводле грэчніцкіх чорных прарокаў мелі ўжо ліквідаваць кароў. На згадку пра афрыканскую чуму людзі абыякава пацiскалі плячыма.

— У нас такога няма! — заяўлялі.

Я ўжо не пытала пра ліквідацыю кароў, якія, дзе не глянь, пасвіліся аграмаднымі статкамі.

(праця́г будзе)

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

ISSN 0546-1960